Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

1930 № 5 Май







Калі паляваньне забаронена.



ГОД ВЫДАНЬНЯ

# Паляўнічы сэзон.

*ЗА МЯЖОЙ* — *У НАС*

























---

№ 5

# Паляўнічы Беларусі

1930 году.

Штомесячная часопіс „Белкохотсоюза“

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
На год . . . . . . 2 р.
„ 6 месяцаў . . . . 1 р. 20 к.
„ 3 месяцы . . . . 70 к.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.

## *Пасьпяваць за тэмпамі.*

Шпаркі тэмп будаўніцтва соцыялізму нашай краіны, бязумоўна, зачапляе і нашу працу, прымушае нас праверыць, як мы выконваем пяцігадовы плян будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі.

Паляўнічая гаспадарка ёсьць частка ўсёй гаспадаркі краіны, а таму нявыкананьне пяцігадовага пляну яе парушыць выкананьне агульнага гаспадарчага пляну БССР.

Нам трэба ня толькі выканаць наш плян, але і перавыканаць яго, каб быць у першым шэрагу па выкананьню пяцігодкі. Усё-ж мы павінны прызнаць, што пяцігадовы плян пакуль што намі ня выконваецца і праца наша пагоршылася.

У апошні час усё больш і больш прыходзіцца ўпэўніцца, што структура, існуючая ў саюзе паляўнічых, не адпавядае свайму прызначэньню, што разьмеркаваньне абавязкаў паміж асобнымі зьвеньнямі структуры зьяўляецца біюрократычным. Гэта, бязумоўна, адбіваецца на ўсёй працы „Белкохотсоюза“. Каб не адставаць ад агульнага тэмпу будаўніцтва, нам неабходна як найхутчэй узмацніць сваю працу.

У першую чаргу ў тэрміновым парадку трэба ажыцьцявіць перавод райкалектываў паляўнічых на гаспадарчы разрахунак з перадачай ім юрыдычных правоў, а таксама і ўсю працу па прыёму, выключэньню, зацьверджаньню членаў саюзу і выдачы членскіх білетаў і па плянаваньні паляўнічай гаспадаркі.

Гэтым мерапрыемствам мы вызвалім акруговыя праўленьні ад лішняй працы, якую добра змогуць выканаць раёны, а, галоўнае, наблізім наш апарат да паляўнічай масы раёнаў і адначасова дадзім поўную ініцыятыву на мясцох па

# Пара перабудавацца*).

Арганізацыйная структура сыстэмы паляўнічай каапэрацыі, якая ў нас зараз існуе, задаволіць сучаснае запатрабаваньне жыцьця ні ў якім разе ня можа.

Жыцьцё ідзе шпаркім крокам наперад. Зразумела, што і кожная арганізацыя, установа, у тым ліку і паляўнічая каапэрацыя, павінны не адставаць, а ісьці ў ногу з жыцьцём. Працаваць па-новаму.

З пашырэньнем новых камуністычных мэтадаў і форм працы на вёсцы—калектыўная праца на сельскай гаспадарцы, сацспаборніцтва і ўдарніцтва,—растуць культурна-палітычныя і іншыя запатрабаваньні працоўнага сялянства, у тым ліку і селяніна-паляўнічага, ня кажучы ўжо пра паляўнічага-рабочага, запатрабаваньні якога куды шпарчэй растуць.

## Гандаль і толькі,—задаволіць ня можа.

Задаволіць зараз запатрабаваньні паляўнічага толькі тым, што мы яго забясьпечваем прыладамі паляваньня, і то вельмі часта з вялікімі перабоямі, недастаткова. Наўрад ці будзе мэтазгодна трымаць для гэтага такія вялікія штаты, ды наогул ці мэтазгодна мець такую грамадзкую арганізацыю, як паляўнічую каапэрацыю толькі для таго, каб гандляваць. Гэтыя функцыі маглі-б выконваць і іншыя сыстэмы каапэрацыі (сельскагаспадарчая, рыбацкая і г. д.).

Мы не павінны спыняць гандлёвай дзейнасьці паляўнічай каапэрацыі. Наадварот яе трэба больш пашырыць, удасканаліць, акрэсьліць,—што павінны мы даць для паляўнічага ў тым ліку і для рыбака і нават спартсмэна не паляўнічага. Трэба наблізіць гандлёвую дзейнасьць да спажыўца. Але-ж галоўнае месца, цэнтр цяжару ўсёй работы паляўнічай каапэрацыі павінен быць перанесены ў бок палітычна-гаспадарчы.

Палітычна-гаспадарчыя пытаньні павінны заняць першае месца, а гандлёвыя—другое, не паслабляючы апошніх, а, наадварот, разгарнуўшы іх яшчэ шырэй.

## Не стаяць на мёртвым месцы.

Вопыт работы паляўнічай каапэрацыі за ўвесь гэты час яскрава паказвае нам, што пры такой дзейнасьці, якая ў паляўнічай каапэрацыі была да гэтага часу, яна, каапэрацыя паляўнічая, будзе не разгортвацца, а, наадварот, зьвёртвацца, адміраць, перастане карыстацца аўтарытэтам сярод паляўнічых мас.

І гэта толькі таму, што яна адстае ад жыцьця, што яе выбарчы апарат на мясцох і ў цэнтры ня бачыць, а часам і не жадае бачыць і прыслухоўвацца да новых запатрабаваньняў жыцьця, да новых запатрабаваньняў паляўнічых.

— Нас не наведваюць.
— Сходы праходзяць вяла.
— Пала дысцыпліна.
— Расьце браканьерства.

Такія заявы прыходзіцца слухаць штодзень ад нізавых працаўнікоў.

А чаму гэта так? Вось на гэта пытаньне адказу ніхто не дае. А гэта таму, што мы ня цікавімся высьвятленьнем гэтых зьявішч, таму, што мы нічога не зрабілі, каб забясьпечыць гэтую яўку, каб узьняць дысцыпліну.

## З чаго трэба пачаць?

Трэба пачаць з таго, каб задаволіць ня толькі спажывецкія запатрабаваньні паляўнічага,—гэтага мала,—але і культурныя. А для гэтага ўся сыстэма павінна перабудаваць сваю працу, зрабіць скачок ад гандлю да палітычнай працы, да культурнага абслугоўваньня паляўнічых, цікавіцца тым палітычна-эканамічным зрухам, які адбываецца ў нашай краіне,

*) Да вырашэньня гэтага пытаньня на пасяджэньні „Белкохотсоюза“.

вядзеньню паляўнічай гаспадаркі і інш. Трэба пераход райкалектываў на гаспадарчы разрахунак абмеркаваць на нарадзе старшынь бюро райкалектываў, пры чым перавод учыняць шляхам аб'яднаньня двох-трох раёнаў у адзін з тым, каб цэнтр калектыву знаходзіўся пры чыгунцы ці воднай прыстані, улічваючы, што праз цэнтр будзе праходзіць задавальненьне райкалектываў таварамі і боепрыпасамі.

Побач з гэтым неабходна пачаць арганізацыю паляўнічых ячэек у калгасах, саўгасах і пры сельсаветах, бо сыстэма паляўнічай коопэрацыі павінна апірацца на мясцох на гэтыя ячэйкі і праз іх праводзіць сваю працу.

Па ўсіх раёнах правесьці афармленьне арганізацыі заказьнікаў, абсьледваць і прывесьці ў парадак тыя, якія ўжо ўстаноўлены, зрабіўшы на іх пляны-карты. Трэба шырока апавясьціць насельніцтва аб мясцох заказьнікаў і растлумачыць ім важнасьці іх арганізацыі.

Да наступнага часу большасьць гарадзкіх калектываў не працавалі зусім, сходы скліkaліся раз у год, або раз у два гады і то толькі для перавыбараў бюро калектываў. Гарадзкія паляўнічыя ніякай сувязі паміж сабой ня мелі, а таму сходы гаркалектываў заўсёды праходзілі з малой колькасьцю паляўнічых. На сходы зьяўляліся ад 10 да 20 проц. паляўнічых.

Культпрацы, стралковай працы зусім ня было, а дзе і была частковa, дык бяз усякага пляну, ды і ахоплівала гэта праца вельмі малую колькасьць паляўнічых. Пагэтаму неабходна заразжа прыступіць да арганізацыі на прадпрыемствах паляўнічых ячэек. Трэба па ўсіх заводах, фабрыках, чыгунках і ўстановах, дзе ёсьць больш за пяць паляўнічых, утвараць ячэйкі паляўнічых, дапамагчы пачаць ім сваю працу і праз іх узмоцніць культурна-стралковую працу, асабліва ўзмоцніць справу па ваенізацыі насельніцтва, па падрыхтоўцы добрых стралкоў праз ячэйкі паляўнічых.

Неабходна ўсе непрацаздольныя бюро гарадзкіх калектываў распусьціць і пераабраць з тым, каб новы склад бюро быў з самых актыўных і зацікаўленых працай паляўнічых.

Ня гледзячы на дырэктывы партыі і пасьля гэтага на адпаведныя распараджэньні „Белкохотсоюза“, усё-ж да гэтага часу справа гадоўлі трусоў і зьвяроў у нашай паляўнічай каапэрацыі ня прывілася. Толькі ў Віцебску і Койданаве (Меншчына) маюцца невялічкія трусятнікі, а ў астатніх акругах і раёнах нічога ня зроблена.

Кожны раён, кожны горад павінен абмеркаваць гэта пытаньне. Трэба ўзяцца за гэту справу не чакаючы „наказу“ зьверху, і ўзяцца рашуча на мясцох, прыцягваючы грамадзкія сродкі і сілы.

Чым лепш мы выканаем азначаную працу, тым хутчэй і лепш будзе выконвацца пяцігодка паляўнічай гаспадаркі.

**А. Сільнікаў.**

прымаць у гэтым, як грамадзкая арганізацыя, актыўны ўдзел і выхоўваць у гэтым напрамку ўсю 30-тысячную масу паляўнічых.

Характэрным у гэтым напрамку зьяўляецца невялічкі пачатак Менскага гарадзкога калектыву. Нядаўна ў Менску створаны чатыры сэкцыі; запісаліся людзі і наведваюць іх, цікавяцца работай. Гэта добра. А з другога боку мы маем і такое зьявішча, што калі сярод 800 паляўнічых Менскай арганізацыі работа ніякая не вядзецца, дык на апошні агульны сход гарадзкіх паляўнічых з 800 сабралася толькі 25 чалавек.

## Нас не прызнаюць.

Ня дзіва, што на мясцох і нават у цэнтры нашай сыстэмы вельмі часта не ўдаецца праз адпаведныя арганізацыі і ўстановы (акрвыканкомы, райвыканкомы, сельсаветы і інш.) правесьці якое-небудзь мерапрыемства.

— З намі проста не жадаюць лічыцца. Нас не прызнаюць,—заяўляюць таварышы з месц.

Так, ня мала выпадкаў, калі нас не прызнаюць ні „дэ-юрэ“, ні „дэфакто“.

Іншая справа, што такія адносіны да такой арганізацыі, якая аб'ядноўвае 30-тысячную армію каапэраваных паляўнічых, ня толькі ненармальны, а проста злачынныя. Але-ж гэта факт, што з намі часта ня лічацца, нас не прызнаюць.

У чым тут корань зла, чаму гэта так? Усё ўпіраецца ў тое-ж захапленьне гандлем і незацікаўленасьцю палітыкай.

## Як-жа быць надалей?

Бясспрэчна, што ўсе пералічаныя вышэй факты гавораць за неабходнасьць перабудовы работы сыстэмы, за новыя формы і мэтады працы.

Але з чаго пачаць? Пачаць трэба з рэарганізацыі структуры. Цэнтр цяжару ўсёй работы з акругі павінен быць перанесены ў раён. Акруговыя праўленьні з яго апаратам, які зьядае амаль усе прыбыткі, павінны быць ліквідаваны. У акруговых цэнтрах павінны застацца ўпаўнаважаныя „Белкохотсоюза“ ці інспэктары паляўнічае каапэрацыі (аб яго назьве ня так важна), з адным тэхнічным працаўніком, які трымае сувязь з акруговымі ўстановамі і вырашае з імі пытаньне паляўнічае каапэрацыі, якія маюць значэньне акруговага маштабу. Гэты-ж таварыш зьяўляецца і старшынёю гарадзкога калектыву паляўнічых. Пытаньнем забясьпечаньня таварамі раённых бюро займаецца непасрэдна „Белкохотсоюз“.

Раённае бюро. Яно павінна перайсьці на гаспадарчы рахунак і існаваць самастойна. Райбюро павінна мець платнага, вызваленага ад іншых абавязкаў старшыню ці намесьніка, сакратара, ён-жа загадчык магазыну.

## Ячэйкі на вытворчасьці, саўгасах і калгасах.

Пры такой структуры куды лепш будзе разгарнуць працу і абслугоўваць паляўнічую масу. Платныя працаўнікі ў раёне і перавод іх на гаспадарчы рахунак дадуць магчымасьць перанесьці работу ў калгас, саўгас, дадуць магчымасьць сапраўды займацца палітычна-гаспадарчымі пытаньнямі, будаваць паляўнічую гаспадарку ў раёнах.

У горадзе на буйных прадпрыемствах, дзе ёсьць ня менш пяці паляўнічых, трэба арганізаваць фабрычна-завадзкія ячэйкі паляўнічых на чале з упаўнаважанымі, ці бюро, у залежнасьці ад колькасьці паляўнічых.

* * *

Далёка яшчэ не ахоплены ў гэтым артыкуле ўсе задачы і абавязкі новых райбюро, горкалектываў, ячэек. Яны, гэтыя задачы, будуць вызначаны ў асобных пастановах „Белкохотсоюза“, але-ж нам здаецца, што ўзьнятае ў гэтым артыкуле пытаньне дае нам поўную магчымасьць перанесьці на шырокае абгаварэньне паляўнічых мас рэарганізацыю сыстэмы.

# Больш увагі пяцігодцы паляўнічай гаспадаркі

## Аб прыпісных паляўнічых гаспадарках.

„Паляваньне бессправаздачнае, бясплянавае павінна быць зьнішчана, як разбураючае і аджыўшае свой век",—так канчае т. Штам свой артыкул „Да пытаньня арганізацыі паляўнічай гаспадаркі" („Паляўнічы Беларусі" № 3 за 1930 г.). З довадамі т. Штама нельга не згадзіцца. Да гэтага часу мы жывем „па старынцы", безгаспадарча палюем, бясплянава і нядбаючы аб тым, што будзе потым, зьнішчаем прыродныя запасы зьвера і птаства.

## Не ўскладаць абавязкі толькі на прыроду.

Да гэтага часу мы не знайшлі лепшых спосабаў вядзеньня паляўнічай гаспадаркі, а вядзем сваю гаспадарку самым заняпалым спосабам: бяз пляну, бяз вучоту, неарганізавана. Выбіўшы дзічыну ў адным месцы, пакідаем яго і шукаем лепшых месц, каб і там скарыстаць прыродныя запасы, зьнішчыць іх і зноў перайсьці на новае месца. Толькі прыродныя ўмовы кіруюць паляўнічай гаспадаркай і часта абараняюць зьвера і птаства ад зьнішчэньня іх, самжа паляўнічы аб гэтым амаль што зусім не клапоціцца. Мерапрыемствы паляўнічых арганізацый да гэтага часу, галоўным чынам, адносіліся да пытаньняў, зьвязаных з вучотам і кааперАваньнем паляўнічых мас і з паляўнічай гаспадаркай наогул. Сярод апошніх трэба адзначыць: выданьне правілаў паляваньня і пытаньні аб арганізацыі заказьнікаў. Далей мы, хоць, часам, гаварылі і пісалі пра гэта, але, пакуль што, далей не пайшлі. Галоўная каштоўнасьць артыкулу і прапаноў т. Штама ў тым, што ён перайшоў ад агульных разважаньняў і меркаваньняў аб паляўнічай гаспадарцы наогул да канкрэтных пытаньняў, як трэба зарганізаваць кожную паасобную паляўнічую гаспадарку і як у ёй гаспадарыць. Праўда, артыкул т. Штама патрабуе далейшай прапрацоўкі яго зьместу, але прапановы, якія ў ім ёсьць, зусім сваячасова высунуты, канкрэтны і вельмі карысны.

Галоўнае пытаньне, якое, бязумоўна, выклікае спрэчкі—гэта аб арганізацыі так званых „прыпісных гаспадарак". (Такая тэрміналёгія хоць ня зусім удалая, але ўжо сярод паляўнічых і ў літаратуры нібы ўстачавілася). Ці патрэбны яны ці не? Вось пытаньне, якое зараз трэба вырашыць і ад вырашэньня яго залежыць, як мне здаецца, далейшы лёс паляўнічай гаспадаркі наогул.

## Кожны вучастак—павінен даглядацца.

Да гэтага часу мы маем арганізаваны і кааперАваны асабовы склад паляўнічых, але, калі ня лічыць дзяржаўнага запаведніка, некалькіх заказьнікаў, мы ня маем ніводнай правільна арганізаванай паляўнічай гаспадаркі. Кожны, хто выбраў паляўнічы білет, мае права паляваць, дзе захоча. Ён гаспадарыць на вялікіх абшарах, ён выконвае правілы паляваньня і больш нічога ня ведае. Вялікія абшары, нязьвязанасьць паляўнічага з тэрытарыяльным вучасткам, з якой-небудзь гаспадаркаю, фактычна вызваляе яго ад усякіх абавязкаў, якія павінен несьці добры гаспадар. Паляўнічы цяпер усюды намінальна гаспадар, а ў сапраўднасьці госьць, які выкарыстоўвае прыродныя запасы, і вельмі мала нясе фактычных абавязкаў да паляўнічай гаспадаркі. Пры такім становішчы наладзіць вучот, правільны дагляд і вядзеньне паляўнічай гаспадаркі на далейшы час немагчыма.

Каб дабіцца гэтага, мы павінны прыняць прапанову т. Штама і арганізаваць гаспадарку так, каб кожны паасобны вучастак зямлі, кожнае месца мела свайго аднаго калектыўнага гаспадара, каб кожны паляўнічы быў прымацаваны да аднэй якой-небудзь гаспадаркі, адносна якой ён разам з усім калектывам паляўнічых нёс бы ўсе гаспадарскія абавязкі.

## Ня быць госьцем.

Кожны паляўнічы павінен быць не гаспадаром наогул усёй паляўнічай гаспадаркі і фактычным госьцем у кожным месцы, а, наадварот, ён павінен быць гаспадаром у якім-небудзь адным месцы, карыстацца паляваньнем і несьці ўсе абавязкі ў адным якім-небудзь месцы і толькі. Бяз гэтага, без дакладнага вызначэньня фактычных гаспадароў у кожным месцы, нельга будзе правільна весьці паляўнічую гаспадарку. Гэтага вымагаюць таксама прынцыпы калектывізацыі і сацспаборніцтва, якіх нельга цяпер бяз прыпіскі калектываў паляўнічых да якой-небудзь тэрыторыі правесьці. Тут трэба адзначыць, што ўвядзеньне „прыпісных гаспадарак" ня зробіць якой-небудзь значнай перабудоўкі нашых паляўнічых арганізацый. Вядома, што і цяпер усе вясковыя паляўнічыя палююць у якім-небудзь бліжэйшым да сябе месцы, у якім-небудзь лесе, на тэрыторыі сельсавету і г. д. Толькі цяпер, ведаючы, што ў гэтым-жа месцы могуць паляваць і іншыя асобы, паляўнічыя, часам, адзін перад адным стараюцца раней пабіць дзічыну, безгаспадарча зьнішчаюць яе і зусім не клапоцяцца аб яе разьвядзеньні, бо яна можа дастацца не яму, а другім, прыежджым і г. д. Гэта вядзе да безгаспадарчасьці, што кожны з нас заўважыў за апошнія часы.

## Гарадзкі паляўнічы павінен дапамагчы.

Цяпер некалькі слоў аб довадах супрацiўнікаў „прыпісных гаспадарак". Іх найбольш сярод гарадзкіх паляўнічых, бо яны нязьвязаны па месцы сталага жыцьця з якой-небудзь паляўнічай гаспадаркай, усюды зьяўляюцца гасьцямі; гарадзкіх паляўнічых трэба будзе расьпісаць па паляўнічых гаспадарках, „прыпісаць" да іх. Прыпіска можа трохі і абмяжуе апэтыты гарадзкіх паляўнічых, але ў інтарэсах правільнага вядзеньня гаспадаркі на гэта трэба будзе пайсьці і тым больш, што можна ўстанавіць права наведваньня паляўнічымі іншых гаспадарак, як сапраўднымі гасьцьмі іх, палюючымі разам з гаспадарамі, плянава, разумна. Гарадзкія паляўнічыя, рабочыя і служачыя найбольш сьвядомыя; ужо гэта адно гаворыць за тое, што яны павінны не адмахвацца ад „прыпіскі" іх да гаспадарак, а павінны свае веды, дысцыплінаванасьць, сьвядомасьць прынесьці на карысьць і службу той гаспадарцы, з якой яны карыстаюцца. Паміж гарадзкім паляўнічым і гаспадаркаю, дзе ён звычайна палюе, павінна быць устаноўлена больш шчыльная і нармальная сувязь. Трэба і па

лінії паляўнічай гаспадаркі ўстанавіць культурную сувязь вёскі з горадам у больш поўных формах.

### Супроць гастралёрства.

Довад аб тым, што прыпіска да паляўнічых гаспадарак варочае нас да часу ўласьнікаў-абшарнікаў, можна адкінуць, як відавочнае непаразуменьне. Ад прыпіскі да гаспадарак ніхто ўласьнікам-абшарнікам ня стане; а калі калектыўны гаспадар паляўнічых угодзьдзяў лепш, на карысьць усёй народнай гаспадаркі, зарганізуецца, дык гэта мерапрыемства трэба прыняць.

Прапанову т. Штама трэба падрабязна абгаварыць, але ў аснове трэба яе прыняць. Думка, што кожнае паляўнічае ўгодзьдзе павінна мець аднаго пэўнага гаспадара, які павінен несьці адносна яго ўсе гаспадарскія абавязкі, вельмі карысна. Не павінна быць гастралёраў і гасьцей; усе паляўнічыя павінны быць добрымі гаспадарамі.

**Томаш.**

---

# Некалькі слоў аб разьвядзеньні куніц у клетках.

Зьверагадоўля ўсяго сьвету трымаецца на разьвядзеньні ў клетках каштоўных парод лісаў. У аднэй Паўночнай Амэрыцы да канца 1930 г. будзе каля 175.000—225.000 срабрыстых лісаў. Каля 30.000 ужо ёсьць у Нарвэгіі, хутка пашыраецца гэта прамысловасьць і ў Германіі. Дзякуючы павялічэньню колькасьці мяхоў і сусьветнаму крызісу, попыт на іх скараціўся і цэны на мех срабрыста-чорнага ліса падаюць. Гэтыя мяхі могуць быць выкарыстаны толькі часткова—на муфты ды накідкі ў выглядзе аднэй-двух скурак—багатымі людзьмі. Спажывацца шырокімі масамі яны ня могуць, бо вельмі дарагія.

Ужо даўно зьвернута ўвага чужаземцаў на нашага собаля. Досьледы па разьвядзеньні собаля доўга не давалі станоўчых вынікаў, бо мы ня ведалі дакладна, калі паруецца і становіцца котным собаль. Зараз гэта мы ведаем і прыплод ад сабалёў атрыманы, але ёсьць яшчэ шмат нявырашаных пытаньняў аб тэхніцы разьвядзеньня сабалёў у няволі.

Як мы бачым з дадзенага да гэтага артыкулу амэрыканскага спэцыялістага па зьверагадоўлі Франка Ашбрука, спарваньне ў амэрыканскіх куніц утвараецца ў другой палове ліпеня і першай палове жніўня і гэта саўпадае з назіраньнямі над собалем. Разьвязаньне пытаньня аб часе цечкі ў амэрыканскіх куніц пракладала шлях і для разьвядзеньня собаля.

З сямейства куніц, апроч собаля, вялікі інтарэс мае куніца і праблема разьвядзеньня яе ў клетках цікава і актуальна тым, што гэтага зьвера можна дабываць на абшарах усёй Эўропэйскай часткі СССР. Гэта мясцовы зьвер і для ўчыненьня досьледаў над ім непатрэбна вялікіх затрат.

Апроч таго, вытворцаў ня трэба вывозіць з Сібіры ці Далёкага Ўсходу.

Мех куніцы вельмі каштоўны. Утрыманьне яе таннае. Пабудова клетак для куніцы куды таньней, чым для собаля, і таму я лічу, што разам з утварэньнем досьледаў над собалем, неабходна ўтвараць досьледы і над куніцай. Аб пастановцы гэтых досьледаў гаворыцца і ў пляне зьверагадоўлі ў Беларусі. Артыкул Франка Ашбрука прыводзіцца для таго, каб даць некаторыя тэхнічныя паказаньні ў гэтай галіне зьверагадоўлі.

Артыкул Ашбрука апублікаваны ў выглядзе абежніка Паўночна-Амэрыканскага дэпартамэнта земляробства ў лютым 1930 году.



З дабычай.

### Нармальны час спарваньня ў куніц.

(Пераклад артыкула Франка Ашбрука—спэцыялістага па зьверагадоўлі Амэрыканскага дэпартамэнта земляробства).

У 1913 годзе Бюро біолёгічнай здымкі (Амэрыка) пачала рабіць папярэднія досьледы па разьвядзеньні куніц (Martas Americana) у Прытчардзе і ў штаце Айдаго. У 1915 г. мясцовая фэрма пушных зьвяроў была зачынена, а куніцы перапраўлены ў Вашынгтон, дзе яны некаторы час трымаліся ў Нацыянальным зоолёгічным парку. Пасьля адбудовы дасьледчай пушной фэрмы ад Біолёгічнага Бюро, у падножжа гары Эдзірсондэк, каля Кізевіля ў штаце Нью-Ерк, туды ў жніўні 1916 году былі прывезены 6 куніц. У канцы студзеня 1917 г. было атрымана яшчэ 4 куніцы і такім чынам для ўтварэньня досьледаў было 10 куніц: 6 куніц загінулі ў 1917 г. З іх здохла ад хвароб тры, дзьве ад параненьня і адна ўцякла з фэрмы. Такім чынам племянны запас на 1918 г. складаўся толькі з 4 куніц.

Да вясны 1920 году самцоў ня пускалі да самак, за выключэньнем студзеня, лютага і першай паловы сакавіка. Гэтыя месяцы лічыліся пэрыядам памнажэньня. Ніводнага прыплоду ня было атрымана на працягу 8 год з 1913 па 1920 г.

### Пачатак досьледаў.

Увосень 1919 году і вясной 1920 г. было вельмі цяжка трымаць самцоў і самак асобна. Яны падкапваліся праз драцяную сетачную подсьцілку, бо часта жылі разам увосень і ўзімку 1919-1920 г., прычым назіралася, што між сабой ня біліся. Гэта назіраньне ня сходзіцца з думкай А. Г. Кокса, які рабіў досьледы над куніцамі ў Англіі, бо ён, як і іншыя зоолёгі казаў, што куніцы ня могуць ужыцца разам і зьнішчаюць адна адну, калі самка і самец зьмешчаны ў адной клетцы і калі ў самкі яшчэ не наступіла цечка.

Была агульная думка, што дапускаць жыць разам самца і самку можна толькі на працягу студзеня і лютага. Але на дасьледча-зьверагадоўчай станцыі ў Злучаных Штатах глядзелі інакш, таму было вырашана пусьціць самцоў жыць разам з самкамі на працягу ўсяго году, за выключэньнем вясны, калі родзяцца дзеці. Куніцы былі даволі ручнымі, добра выкармленымі і здаровымі. Былі надзеі, што яны будуць спарвацца і памнажацца. Некаторыя меркаваньні прывялі да думкі, што куніцы

магчыма, у няволі памнажаюцца ня ў той час, калі на волі. Была і такая думка, што яны ў дзікім стане спарваюцца ў студзені ці лютым. А раз гэта так, то было-б знойдзена тлумачэньне, чаму ня было спарваньняў і прыплоду на дасьледчай станцыі. Прычына гэтага крылася ў тым, што самцы і самкі ня жылі разам ў патрэбны момант.

10 мая 1920 году самцы былі пасаджаны разам з самкамі. Яны ня біліся між сабою да апошняй часткі ліпеня і да пачатку жніўня. У гэты час яны вельмі пішчэлі і было заўважана, што ў адной самкі парвана вуха. Раней падумалі, што куніцы сталі біцца і таму меркавалі іх разлучыць. Раніцай 13 жніўня 1920 г. куніцы паднялі такі шум і крык, што вартаўнік прыйшоў паглядзець іх і заўважыў, як адна пара спарвалася. Далейшыя назіраньні на працягу дня паказалі, што гэта і было прычынай такога вялікага шуму.

Потым да самкі быў упушчаны другі самец і той пакрыў яе некалькі разоў. Назаўтра ён быў узяты адтуль і ўпушчаны да самкі першы. Калі гэты самец увайшоў у клетку, ён спачатку ня бачыў самкі, бо яна сядзела на сетцы столі, але як толькі знайшоў яе, узьлез туды, схапіў за шываратъ, сьцягнуў адтуль і пакрыў. Гэту самку бачылі, як яна спарвалася некалькі раз за чатыры дні з 13 па 16 жніўня.

26 жніўня 1920 г. самак зьмясьцілі ў асобныя клеткі і трымалі іх там да канца лістапада, а потым зноў пасадзілі разам з самцамі. Самкі і самцы былі разам да 4 красавіка 1921 г., а потым іх зноў разлучылі.

Самка, за якой назіралі спарваньне з самцом у жніўні, пачала таўсьцець і прыбаўляцца ў вазе месяцы праз два пасьля гэтага. 15 красавіка 1921 г. яна дала памёт з трох дзяцей. Калі скрынка гнязда была абгледжана, адно дзіцяне было знойдзена няжывым, але яго ня выкінулі адтуль, бо самка была вельмі нэрвовая і ўзрушаная. Калі ў наступны раз скрынку гнязда адчынілі, знайшлі толькі двое дзіцянят, а ад трэцяга не засталося і сьляда. З тае прычыны, што матка нэрвавала і нязграбна пераносіла дзяцей з кутка ў куток клеткі, калі хто небудзь падыходзіў да яе доміка, то рашылі як мага менш турбаваць яе і дзяцей, пакуль апошнія не дасягнуць месячнага ўзросту. Гэтая самка была ў няволі з студзеня 1917 г. і ня мела ніводнага прыплоду, хаця яна штогод і бегала з самцамі ў студзені і лютым.

На працягу 1921 г. было вырашана трымаць куніц пад суровым назіраньнем, каб заўважыць спарваньне і потым аддзяліць пакрытых самак да позьняй вясны наступнага году. Умовы для ажыцьцяўленьня гэтага пляну былі няспрыяючыя. З прычыны таго, што ў тое лета не назіралася больш спарваньняў, было вырашана пусьціць самцоў бегаць разам з самкамі з 13 ліпеня 1921 г. па 1 красавіка 1922 г. Хаця за гэты перыяд спарваньняў не наглядалася, але куніца, якая прынесла і вырасьціла памёт ў 1921 г., 16 красавіка 1922 г. прынесла трох дзіцянят жаночага полу.

На працягу лета 1922 году самцоў пускалі да самак кожны дзень раніцай, але наначы іх запіралі ў асобныя клеткі, каб лепш было назіраць за спарваньнем удзень. Калі ў самак была цечка, самцы іншы раз пакрывалі іх хутка пасьля таго, як былі ўпушчаны да самак, звычайна праз гадзіну і часта ня гледзячы на прысутнасьць людзей. Усе самцы, узятыя для гэтых дасьледаў, давялі, што яны полігамы *). Старая самка, даўшая два вышэйпаказаных прыплоды, была пакрыта некалькі разоў між 28 ліпеня і 6 жніўня таго-ж году. Таксама адна маладая самка, не дасягнуўшая 4 месячнага ўзросту, была пакрыта некалькі разоў між 4 і 19 жніўня, а таксама і 3 верасьня, але не ад 19 жніўня і да 3 верасьня. Дзьве з маладых былі пакрыты 6 жніўня. Самак потым аддзялілі ад самцоў 10 верасьня 1922 г. і трымалі ў клетках асобна да ліпеня 1923 г., каб ведаць, колькі месяцаў цягнецца котнасьць у куніцы, бо некаторыя даводзілі, што яны бываюць котнымі да 8 месяцаў. У студзені 1923 г. дзьве з чатырох самак, пакрытых на працягу мінулага лета, здохлі, але калі іх ускрылі, ня было знойдзена адзнак котнасьці ні ў воднай. Адна самка была тая, якая вырасьціла два прыплоды, а другая была маладая, якая радзілася вясной 1922 г. Дзьве іншыя самкі, з якіх кожная была пакрыта на працягу мінулага лета, ня далі прыплоду вясной 1923 г.

У 1923 г. на станцыі было 3 самкі і 3 самцы. Назіралася, што ўсе 3 самкі былі пакрыты на працягу жніўня 1923 г. У верасьні яны былі аддзелены ад самцоў, як і ў мінулыя гады, але не радзілася ніводнага дзіцяня. Позна ўвосень 1923 г. куніцы былі пераведзены на новую дасьледчую зьверагадоўчую станцыю Бюро Біолёгічнай здымкі ў Саратагу Спрынгс, штат Нью-Ерк.

*) Полігамы—многажоны.

На лета 1924 г. былі пакінуты толькі 3 самкі і 2 самца. Адна з самак была забіта праз некалькі гадзін пасьля таго, як яна была пасаджана ў клетку з другой самкай. У дзьвюх самак, якія засталіся, у жніўні былі заўважаны адзнакі гарачкі, але пакрылі толькі адну. Абодвы самцы мелі ўзрост каля 10 год і было відаць, што іх палавая здольнасьць падыходзіла да канца. Вясной 1926 г. не радзілася ніводнага дзіцяняці.

Абедзьве самкі былі пакрыты ў жніўні 1925 г., але ў наступную вясну таксама ня было ніводнага дзіцяня. Адна з дзьвюх самак была пакрыта самцом ў жніўні 1926 г. Абедзьве самкі бегалі разам з адным самцом на працягу ўсяго 1926 году, але ніводная ня дала прыплоду вясной 1927 г.

У канцы сьнежня 1926 г. была злоўлена адна дзікая самка і 6 красавіка 1927 г. дала прыплод з 3 дзіцянят, з якіх два былі вырашчаны. Гэта самка дапускалася да самца толькі на некалькі гадзін праз дзень у апошніх тры тыдні лютага, але нельга думаць, што яна была пакрыта ў гэты час, бо яна адганяла самца. З гэтага відаць, што яна была пакрыта яшчэ ў дзікім стане перад тым, як яе злавілі.

Улетку 1927 г. на станцыі было 4 дарослых самцы, 4 дарослых самкі і 2 маладых куніцы — адзін самец і адна самка. Толькі адна дарослая самка была пакрыта ў жніўні 1927 г. Хоць самцы і жылі разам з самкамі з самага пачатку ліпеня і да канца лютага, ніводнага дзіцяня не радзілася вясной 1928 г.

## Досьледы ў 1928 годзе.

Улетку 1928 г. племянны запас куніц складаўся з 13 дарослых: 7 самак і 6 самцоў. 6 самак з 7 былі пакрыты між 11 ліпеня і 12 жніўня, большасьць з іх па некалькі разоў.

19 ліпеня адзін з самцоў забіў самку, якую ён пакрыў 11 ліпеня. Некалькі пазьней рашылі яго больш не дапускаць да самак, бо ён кепска абыходзіўся з імі. Самцоў трымалі ў асобных клетках уначы і пускалі бегаць разам з самкамі толькі ўдзень, каб лепш было назіраць за спарваньнем. 4 верасьня 1928 г. усе самкі былі аддзелены ад самцоў і зьмешчаны ў свае клеткі да пачатку лета 1929 г. 23 красавіка 1929 г. адна з самак, якая спарвалася 22 і 23 ліпеня і 6 і 7 жніўня 1928 г., дала прыплод, хоць яна і ня была разам з самцам пасьля 4 верасьня 1928 г. Гэты факт сьведчыць, што ад спарваньня ўлетку куніца стала котнай і насіла дзяцей ад 259 да 275 дзён, гэта значыць ад $8^1/_2$ да 9 месяцаў. Да гэтага выпадку ня было дакладна вядома, калі павінна быць спарваньне куніц для таго, каб яны прынесьлі прыплод.

## Агульныя прывычкі куніц пры спарваньні.

З пастаўленых досьледаў выявілася, што куніцы самцы звычайна жывуць мірна з самкамі амаль што ўвесь год. Заўважалася, што некаторыя самкі праяўлялі больш сымпатыі да тых, з якімі яны жылі разам некаторы час да цечкі. Прыблізна ў першым тыдні пасьля цечкі самец, відаць, надакучваў самцы. Гэта было відаць з таго, што самка не дапускала яго да сябе хоць ён і не зрабіў спроб пакрываць яе.

Самцы вельмі б'юцца між сабою. Тое-ж самае можна сказаць і пра самак.

У шмат якіх самак ёсьць два пэрыяды, кожны ў два тры дні, на працягу якіх яны прымаюць самца. Гэтыя пэрыяды звычайна аддзяляюцца адзін ад другога адным ці двума тыднямі.

У час цечкі самка часта падае асобныя гукі, якія зусім не падобны на яе гукі ў іншы час. Як відаць, гэтымі гукамі яна кліча да сябе самца. Яна садзіцца на лапкі, часта мочыцца, асабліва на камні і іншыя прадметы ў клетцы, лезе на самца, калі ён пасыўны, нэрвуе, віляе і хлопае хвастом, гучна пішчыць, калі самец кепска абыходзіцца з ёю. Калі яна ня хоча прыняць самца, ён ганяецца за ёй пакуль не пакрые яе.

Было ўзьнята пытаньне ці можа заплоденае яйка ляжаць у пасыўным стане на працягу некалькіх месяцаў, пакуль пачне разьвівацца зародак, як гэта бывае ў дзікіх коз. Вільямс, гаворачы пра тое, колькі працягваецца цяжарнасьць у дзікіх жывёл, паведамляе: „Хаомс сьцьвярджае дзіўны факт, нібы ў аленяў ёсьць пэрыяд ў 40 тыдняў між запладненьнем і нараджэньнем дзяцей, але ў гэты пэрыяд зародак не разьвіваецца, як гэта назіраецца ў шмат якіх жывёл. Яйка аленя падпадае дзяленьню і ляжыць 4 месяцы ў пасыўным стане. Каля сьнежня месяца пачынае разьвівацца зародак, і дзеці нараджаюцца ў маі ці чэрвені—праз 5 месяцаў. Гэты факт прымушае думаць, што падобная адтэрміноўка ў разьвіцьці дзіцяня нібы прадугледжана прыродай, каб ён нарадзіўся ў спрыяючы час году".

Відаць, тыя-ж умовы існуюць і ў куніц, бо ў самак, злоўленых і забітых у дзікім стане, мікраскапічныя досьледваньні не паказвалі адзнак котнасьці да апошняй часткі зімы.

## Досьледы ў іншых дзяржавах.

Гэнрых Прэль (Мюнхэн, Нямеччына) пасьля свайго наведваньня Злучаных Штатаў узімку 1927 г. з мэтай вывучэньня пушной зьверагадоўлі, напісаў Бюро Біолёгічнай здымкі наступнае: „Аднаму нямецкаму зьвераводу я раіў трымаць разам пару каменных куніц. 16 ліпеня ён заўважыў спарваньне каля 9 гадзін раніцы, а потым зноў каля 5 гадзін вечара. Адзін ляснічы заўважыў адну пару куніц, якая спарвалася каля 4 гадзін раніцы; гэтыя два назіраньні могуць давесьці, што біолёгія эўропэйскай куніцы (Martes fana), такая, як і ў амэрыканскай".

Д-р Прэль параіў Г. Рэйнгардту ўчыняць досьледы над каменнай куніцай. Ён назіраў спарваньне 16 ліпеня 1927 г., 5, 6 і 7 ліпеня 1928 г. і 28 ліпеня 1929 г. Першае дзіцянё нарадзілася 7 красавіка 1929 г. Паведамленьні, якія былі зьмешчаны ў арт. д-ра Рэйнгардта, сходзяцца з назіраньнямі ў Злучаных штатах.

### Вывады.

Нармальны шлюбны пэрыяд у куніц бывае ўлетку, звычайна з паловы ліпеня і да трэцяга тыдню жніўня, а ня ўзімку.

З гэтых досьледаў было канчаткова выяўлена, што куніца носіць дзяцей прыблізна ад $8^1/_2$ да 9 месяцаў (ад 25 да 275 дзён) замест—ад 60 да 102 дзён, як думалі раней.

**Проф. Генэрозаў.**

# Як гадаваць трусоў.

Гадоўля трусоў падзяляецца на падбор вытворцаў, спарваньне адабраных вытворцаў, дагляд за котнай і кармячай малых самкай і выхаваньне маладняка.

Перш за ўсё абмяркуем пытаньне аб падборы вытворцаў. Пры падборы вытворцаў на племя трэба зьвяртаць увагу на наступнае: на чыстату пароды вытворцаў, экстэр'ер, г. зн., каб вытворца адпавядаў стандарту сваёй пароды, скарасьпеласьць, здольнасьць да перадачы ў спадчыну свайго тыпу. Самка павінна быць плоднай, з добра разьвітымі сыскамі, здольная даваць буйных і роўных трусянят і выкармліваць іх. Здаровыя вытворцы пазнаюцца па вясёламу пагляду, гладкасьці скуры і паводзінах труса. У хворых трусоў скурка шурпатая, поўсьць на ёй стаіць старчма, вочы ўпаўшыя, цьмяныя, паходка цяжкая, лянівая. Трус большай часткай сьпіць. Трэба зьвярнуць увагу на полавыя органы трусоў—яны павінны быць здаровыя. Калі ў трусоў будзе заўважаны сып, ні ў якім разе злучаць іх у гэты час нельга. Да злучкі трусоў трэба карміць правільна, бо сытыя трусы мала прыносяць трусянят, а то нават і зусім бываюць бязьдзетнымі. Ад неадкормленых трусоў таксама атрымліваецца дрэннае і слабае патомства, схільнае да хвароб.

У племянных вытворцаў не павінна быць недахопаў, якія перадаюцца ў спадчыну,—гэта абвіслая сярэдзіна, абсечаны зад, крывыя заднія ногі, крывыя, спадаючыя вушы, не разьвіты склад цела, белыя кіпцюры ва ўсіх парод трусоў, за выключэньнем тых, якія маюць чыста белую афарбоўку.

Злучка ўтвараецца тады, калі ў самкі зьявіцца цечка. Увосень і ўзімку здараецца, што цечкі зусім ня бывае, ці бывае вельмі слаба выяўлена. Прымушаць трусоў насільна да злучкі ніколі ня трэба. Калі самка сама захоча, тады трэба і падпускаць да яе самца. У самак зьяўляецца жаданьне да злучкі амаль праз кожныя 7—8 дзён і працягваецца некалькі дзён. Цечка ў самкі пазнаецца па наступных прычынах: становіцца больш рухомай, трацiць апэтыт, бегае па клетцы і забіраецца ў куток. Калі самку пагладзіць рукой уздоўж сярэдзіны, дык яна кладзецца, выцягваецца і падымае зад.

Пры цечцы ў самак чырванеюць і набухаюць полавыя органы, а то і кроў выдзяляецца адтуль.

У разьвядзеньні племянных трусоў пытаньне аб часе злучкі, аб ліку самак на аднаго самца, аб полавай чыннасьці вытворцаў маюць вялікае значэньне. Час злучэньня племянных вытворцаў першы раз залежыць ад пароды, хуткасьці пасьпяваньня трусоў, правільнага кармленьня іх і ад індывідуальных якасьцяй. Раньняе спарваньне вытворцаў затрымлівае нармальнае разьвіцьцё арганізму. Ад несваячасовага запладненьня трус перастае разьвівацца, бо ў яго арганізьме разьвіваецца плод, на які і ідуць самыя лепшыя часткі харчоў. Апроч таго, маладняк ад такіх вытворцаў будзе слабы і лёгка паддавацца ўсякім хваробам.

Лепшым узростам для спарваньня ў першы раз самак трэба лічыць з 5 месячнага ўзросту, а для самцоў з 7—8. Для спарваньня першы раз самак сярэдняй пароды—7 месяцаў, а для самцоў—10 месяцаў. Для буйнай пароды, самак—9 м-цаў, самцоў—11 м-цаў.

Лік самак на аднаго самца залежыць ад наступных абставін: ад узросту вытворца—чым маладзей самец, тым менш патрэбна самак; ад правільнага кармленьня самца—чым здаравей і добра выкармлены самец, тым больш трэба самак; ад колькасьці злучак; ад спосабаў злучак—пры ручной злучцы трэба больш самак, чым пры вольнай, бо самец адну і тую-ж самку можа пакрыць некалькі разоў пры вольнай злучцы. Наогул больш адной самкі на дзень на аднаго самца не палагаецца.

Пры спарваньні вытворцаў трэба старому самцу даваць маладую самку, а маладому самцу, яшчэ ня быўшаму ў злучцы, даваць старую самку, якая ўжо была ў спарваньні. Самец годзен для злучкі ня больш 3 год. Злучка павінна ўтварацца лепш увечары або раніцай у клетцы самца, адкуль уперад трэба забраць кармушку. Пасьля ўтварэньня полавага акту самец звычайна валіцца на бок, памалу пішчыць і некаторы час ляжыць нярухомы. Больш двух злучак падрад не дапускаецца. Пасьля злучкі самку зараз-жа трэба ўзяць ад самца.

Калі самка не даецца пакрыць самцу, хоць яна ўжо і гатова да спарваньня, трэба перасадзіць да другога самца, бо часта бывае, што з ахвотай прымае другога.

Праз 5—7 дзён пасьля злучкі трусоў, каб мінаваць прагулаў, якія прыносяць толькі страты гаспадарцы, самку зноў садзяць да самца. Калі яна не дапускае да сабе самца, кусае яго, забіваецца ў куток з піскам, гэта значыць, што самка котная. Калі-ж самка ня котная, то яе трэба яшчэ раз пасадзіць да самца. Праз 12—14 дзён самак трэба абглядзець больш дакладна, каб канчаткова ўпэўніцца, што яны котныя. Калі самка котная, то пры ашчупваньні жывата пад пальцамі будзе адчувацца плод, велічынёй з вялікі арэх; калі ня будзе нашчупаны плод, дык значыць самка ня была запладнена і яе трэба зноў злучаць.

(Працяг будзе).

**Галубчык.**

# Разьвядзеньне трусоў у Віцебшчыне.

Віцебскае таварыства паляўнічых задумала разводзіць трусоў яшчэ ў 1928 г. Але ўсё былі няўдачы. Толькі ў 1929 г. увосень была куплена хата з іншымі пабудовамі ў м-ку Бешанковічах і атрыманы племянны матэрыял трусоў. З гэтага і было пачата разьвядзеньне трусоў.

Матэрыял на племя складаўся з венскіх блакітных (самец і самка), шэншылёвых (самец і самка), шамшань (2 самцы і 2 самкі), белых вяліканаў (самец і самка), фляндр кангуровы (самец і самка). Апроч таго праз Дзяржгандаль РСФСР удалося атрымаць з Смаленскага трусятніка Дзяржгандлю па дзьве самкі і па два самцы шэрасрабрыстых і шэншылёвых трусоў. Гэтыя трусы былі атрыманы ў лютым 1930 г.



У Віцебскім трусятніку.

Памяшканьне для трусоў было прыстасавана і абсталявана з студзёных пабудоў і ня зусім адпавядала гэтаму прызначэньню, але другога ня было.

Трэба адзначыць, што наш трусятнік—першы ў Віцебскай акрузе і працаваць было цяжка, бо ня было ні вопыту, ні сродкаў, ні трусоў на племя. Нам дапамог „Всекохотсоюз" і даў трусоў. „Белкохотсоюз" сам толькі ў гэтым годзе стаў разьвіваць гэту справу і магчыма зараз нам чым-небудзь дапаможа. Усё прыходзілася рабіць самім—як узоры клетак, так і складаньне плянаў. Мы ішлі на вобмацак па гэтым новым шляху, вывучаючы яго і баючыся памылак, якія маглі-б загубіць гэту, яшчэ слабую, справу.




Клеткі для трусоў.

Зараз пастаўлена нібы ўсё здавальняюча і паўстае пытаньне аб пашырэньні трусятніка, якое трэба разьвязаць як мага хутчэй праўленьню акртаварыства. У трусятніку ёсьць ужо першыя прыплоды.

„Шэрасрабрыстая" самка з гадавальніка „Духаўшчына", якая нарадзілася 25 жніўня 1929 г., была злучана 11 сакавіка 1930 г., акацілася 12 красавіка, прынесла 5 трусянят. Аднаго з іх зьела зусім, другога—напалову, трох раскідала па гняздў. Трусяняты былі падабраны, сагрэты і зноў пакладзены ў гняздо, але матка ўпарта не хацела іх накарміць і ўначы зноў іх раскідала. Адагрэць зноў іх не ўдалося і трусяняты падохлі. 13 красавіка каля паўдня да яе зноў было падкладзена 4 трусяняты ад Шамнонь, якія нарадзіліся 12 красавіка. Яна прыняла іх добра і трусяняты былі накормлены. 13 удзень самка сядзела ў гняздзе, а 8 гадзіне ўвечары таксама, а пасьля поўначы было заўважана, што аднаго стала аб'ядаць з пярэдніх лапак, а апошнія трое былі параскіданы па гняздў,—зьмёрзьлі і адагрэць іх не ўдалося. Харчоў у самкі ўвесь час было даволі ўсякіх, вады таксама.

Самка „Фляндра" з трусятніка „Кролік", якая нарадзілася 8 мая 1929 г., злучана была 12 сакавіка, акацілася 11 красавіка, прынесла 7 трусянят, адразу раскідала іх па ўсім гняздзе. Іх зноў сабралі, адагрэлі і паклалі ў гняздо. За ноч яны зноў былі параскіданы па гняздў, траіх з іх адагрэць не ўдалося. 12-га ўвесь дзень самка знаходзілася каля гнязда і трусянят не чапала, а ўначы на 13 апошнія чацьвёра былі параскіданы, замёрзьлі і адагрэць іх не ўдалося. Самка наогул па характару нэрвовая, злосная. Пуху для гнязда ёй загатоўлена ня было.

Самка „белы вялікан", з трусятніка „Кролік", якая нарадзілася 11 мая 1929 г., злучана 12 сакавіка, акацілася 11 красавіка, прынесла 10 трусянят, вельмі добрая матка, старанна падрыхтавала гняздо, з ёй пакінуты часова ўсе трусяняты, даюцца добрыя харчы: пойла з аўсянага адвару, малако. Выгляд у трусянят добры. Самка спакойная.

Самка „Шаншыль", з трусятніка „Кролік", якая радзілася 19 чэрвеня 1929 г., злучана 12 сакавіка, акацілася 12 красавіка, прынесла 11 трусянят. Добра зрабіла гняздо (вельмі шмат надрала з сябе пуху). 13 красавіка чацьвёра былі ўзяты ад яе і падложаны пад шэрасрабрыстую (гл. вышэй), дзе і загінулі. Пакінутыя сямёра трусянят здаровы, дагляд з боку маткі вельмі ўважлівы.

„Венская блакітная" самка з трусятніка „Кролік", нарадзілася 4 красавіка 1929 г., злучана 12 сакавіка, акацілася 14 красавіка, прынесла чацьвёра трусянят, усе здаровыя, уход з боку маткі добры.

Апошнія 5 самак павінны былі акаціцца каля 22—23 красавіка. Зноў злучаны 14 красавіка самкі шэрасрабрыстая і фляндра, каб, такім чынам, у іх хутчэй перагарэла малако і зьявіліся прыплоды.

Магчыма, што гэты артыкул дасьць карысьць нашым спэцыялістым па гадоўлі і дагляду за трусамі і паставіць перад імі пытаньне аб неабходнасьці ўтрыманьня ў кожным трусятніку запасных гатовых матак-карміліц—гэта адзіны выхад захаваньня народжаных трусянят, маткі якіх ня могуць ці ня хочуць іх выкармліваць.

**Б. Сушкевіч.**

# НЕ ПАЛЯВАЦЬ УВЕСНУ!

І ў гэтым годзе былі спрэчкі аб забароне вясеньняга паляваньня. Некаторыя менскія гарадзкія паляўнічыя дабіваліся адчыненьня паляваньня на слонак і цецярукоў. Але большасьць паляўнічых выказалася супроць адчыненьня.

Цікава тое, што Віцебскае акруговае таварыства паляўнічых у мінулыя гады было заўсёды супроць вясеньняга паляваньня. Тады яно нават заяўляла, што калі вясеньняе паляваньне ў БССР ня будзе забаронена „Белкохотсоюзом“ і Наркамземам, дык Віцебскае акртаварыства разам з Акрза забароніць вясеньняе паляваньне ў сваёй акрузе.

Але ў гэтым годзе „Белкохотсоюз“ атрымаў ад Віцебскага т-ва паляўнічых тэлеграму з хадайніцтвам дазволіць вясеньняе паляваньне на слонку і цецярукоў. Такая-ж тэлеграма была атрымана і Наркамземам. Што прымусіла Віцебскіх праўленцаў зьмяніць так хутка свае адносіны да вясеньняга паляваньня—невядома.

Апроч таго, Віцебскае таварыства, пасылаючы гэтыя тэлеграмы, забылася пра пастанову VIII Сходу ўпаўнаважных паляўнічай каапэрацыі, у якой зьезд таксама выказаўся за забарону вясеньняга паляваньня.

Паляўнічай каапэрацыі Беларусі і Украіны[1]) трэба дабіцца, каб вясеньняе паляваньне было забаронена на ўсім абшары СССР, за выключэньнем тых раёнаў, дзе паляваньне носіць прамысловы характар.

Зараз аб тым, які ўплыў робіць забарона вясеньнага паляваньня на ўраджай дзічы. Я прывяду тут факты. У 1927 г. было вясеньняе паляваньне адчынена. Бывала ідзеш з стрэльбай і за цэлы дзень ня ўбачыш качкі ці цецярука. На балоце ціха. Толькі стрэлы парушаюць гэту цішыню.

1 і 2 мая ў гэтым годзе я правёў каля рэчкі Сьвіслач у Пухавіцкім раёне. Мне даводзілася гутарыць з паляўнічымі з вёскі. Усе яны заяўлялі, што вельмі шмат качак, цецярукоў, белых курапатак.

І гэта верна. Сядзіш на беразе рэчкі з вудай, а над галавой, не баючыся, лётаюць качкі. На высьпе сярод балота між кочак і хмызьняка балбоча цецярук. Гусі зьняліся з поля і нясуцца касяком на возера адпачыць. На балоце ціха. Ня грыміць дубальтоўка і птахі ведаюць, што іх ніхто не зачэпіць,—не баяцца.

У гэтым годзе, калі будзе спрыяць надвор'е, ураджай дзічы будзе яшчэ большы, чым летась. Хаця ўжо і летась быў вялікі прырост цецярукоў і белых курапатак. Беларускі паляўнічы адмовіўся ад вясеньняга паляваньня, даў магчымасьць спакойна пладзіцца дзічы. За гэта ён на паляваньні першага жніўня атрымае з лішкам. Кепска толькі, што ў гэтым годзе сухія балоты і бадзячыя сабакі могуць разбураць гнёзды.

**М. Цэлеш.**

[1]) На Украіне веснавое паляваньне таксама забаронена.

# ВЫВУЧЫМ ЖЬ

Пытаньне аб накладаньні абручыкаў на птах ўсё часьцей і часьцей абгаварваецца на старонках нашага друку. Якое значэньне мае накладаньне абручыкаў на птах для вывучэньня пералётаў, вандраваньня і іншых біолёгічных момантаў з жыцьця птах, дастаткова вядома кожнаму паляўнічаму, і мы на ім доўга спыняцца ня будзем.

Перш за ўсіх стаў накладаць абручыкі на птах ў Эўропе дацкі настаўнік Мартэнсон у 1899 г. З 1903 г. стала працаваць арнітолёгічная станцыя ў Расіттэне (Паўночна-ўсходняя Прусія). З таго-ж году Орнітолёгічны цэнтрал у Будапэшце (Вэнгрыя) і Біолёгічная станцыя на высьпе Гэльголянд. З 1909 году стаў накладаць абручыкі на птах Эбэрдзінскі унівэрсытэт у Шотляндыі.

Зараз гэтай справай займаюцца амаль усе краіны сьвету.

У 1925 г. пачаў накладаць абручыкі на птушак у Індыі магароджай (князь) провінцыі Дар, а зараз Бамбэйскае натуральна-гістарычнае таварыства. Гэтыя вопыты ўжо паказалі, што ў Заходняй Сібіры існуе шлях пералёту сібірскіх качак у Індыю.

З 1924 г. накладаньнем абручыкаў на птах стала займацца міністэрства земляробства і лесабудаўніцтва Японіі.

У артыкуле праф. Фядзюшына (№ 1 „Паляўнічы Беларусі“ за 1930 г.) прыводзяцца весткі аб арганізацыі ў Эстоніі і Фінляндыі, якія займаюцца гэтай справай.

Натуральна-гістарычны музэй у г. Гецэборзе (Швэцыя) у апошнія дзесяцігодзьдзі ўчыняе вопыты з накладаньнем абручыкаў на швэдзкіх пералётных птах. Вынікі атрымаліся вельмі добрыя. Абручыкі маюць пячатку „Muzeum goteborg Sweden“, „бягучым нумарам і аднэй літарай, напр. 15101 С., 3103, В.

Усе гэтыя ўстановы займаюцца накладаньнем абручыкаў у вялікай колькасьці, г. зн. штогод накладаюць шмат абручыкаў на птах; пры чым займаюцца гэтай справай ня толькі самі ўстановы ці станцыі, але і значная колькасьць працаўнікоў, якія знаходзяцца далёка ад гэтых станцый. Важна тое, што на абручыках ёсьць адрасы ўстаноў (станцый), якія карыстаюцца шырокай папулярнасьцю. Гэта, у выпадку здабычы птахі з абручыкам, забясьпечвае перасылку абручыка на станцыю або паведамленьня нумара, літары і іншых зьвестак аб птушцы.

Да імпэрыялістычнай вайны ў нас займаліся накладаньнем абручыкаў барон Лаудон у Ліфляндыі і паляўніцкі гурток студэнтаў Ленінградзкага лясного інстытуту. Абручыкі ўжываліся ў абодвых выпадках не расійскія, а з станцыі Росіттэйн у Германіі.

Сутнасьць накладаньня абручыкаў заключаецца ў наступным: птушцы на адну нагу надзяецца абручык з алюмінія. Кожны абручык мае свой нумар, літару, якая паказвае разьмер абручыка і адрас той станцыі, якая выпускае абручыкі і раздае іх тым асобам, хто займаецца гэтай справай. Пасьля накладаньня абручыка птаха выпускаецца на волю.

Пры накладаньні абручыка дакладна запісваецца: 1. Нумар і літара абручыка. 2. Якая птаха (пол, калі вядома) 3. Час накладаньня абручыка (год, месяц, дзень) 4. Месца накладаньня абручыка і выпуску (дакладна—акруга, раён, вёска і г. д.). 5. Прозьві-

# КАЛЯНДАР ВЯСНЫ 1930 году

*(Саўгас Сёмкава, Заслаўскага р., Менскай акругі).*

Вясна ў гэтым годзе наступіла рана. Так, ужо 20 студзеня ў адлегу можна было бачыць па сьлядох, што пачалі ганяцца адзін за адным зайцы. 25-I—зайцы ляжалі па пары. На палёх усё парныя сьляды; мясцамі вытаптаны плошчы, на якіх валялася клоччам шэрсьць, дзе відаць біліся зайцы. 17-II запахла вясной: дзяцел стаў „барабаніць", вераб'і, вароны і попаўзень крычаць па вясеньняму. Пішчуха амаль без перапынку сьпявае. 20-II—першы раз пачуў боязнае сьпяваньне аўсянкі (відаць маладой). 26-II—ня гледзячы на марозік, сонца добра прыпякае. 3-III—пачала правальвацца дарога. 4-III—зьявіліся праталінкі. 5-III—сапсавалася дарога. 9-III—чулі сьпевы жаўнаркі. 10-III—пратанін на палі больш, чым сьнегу.

Першы раз убачыў лятучую на поўнач жаўнарку і чуў сьпевы яшчэ некалькіх. Мурашкі ўжо вылезьлі з мурашніка і сядзяць кучкамі, грэюцца на сонцы. Чуў сьпевы і бачыў ляцеўшую на захад канаплянку (acanthis canabina). Чуў крыкі гракоў. Бачылі касяк журавоў. 11-III—шмат жаўнарак лёталі з сьпевамі ва ўсіх напрамках. Вялікія сініцы ўжо лётаюць па пары. Увечары камары „мак таўклі". Бачылі стайку шпакоў у 6 штук. 13-III—у поўдзень пачаўся дожд-галалёдзіца; усе дрэвы абледзянелі. 14-III—бачыў стайку жаўнарак, уцякаючых на поўдзень. 15-III—бачыў шпака і стайку ў 6-7 штук зяблікаў, уцякаючых на поўдзень. 16-III—увечары выпаў сьнег у $1^1/_2$—2 вяршкі. 18-III—ня гледзячы на сьнег, некалькі жаўнарак трымалася ў полі на ральлі ў захаванай ад ветра лагчыне, а на сядзібе стайка в'юркаў (Fringilla montifringilla) і вялікія стаі чыжоў. Увечары бачыў вялікую стаю гракоў, якія карміліся на полі.

20-III—зноў вясна. Сьнег, выпаўшы 16 і 17, растаяў. Паляўнічы М. Грынцэвіч бачыў стаю качак-сьвіязяй. 21-III—разьлілася рэчка Чарняўка. Бачылі трох дзікіх галубоў, якія сядзелі на дрэве, на краю лесу. Зьявіліся розныя казяўкі. Чуў крык белай сітаўкі (Mofacilla alba.) 22-III—зусім цёпла. Пачалі сьпяваць зяблікі і зялёнушкі. Раніцай зьявілася на сядзібе шмат шчыглоў. Чуў сьпевы і бачыў некалькі штук крапіўнікаў (Trogledytes parvulus L.). Бачылі ляцеўшага бусла. Пачалі лётаць мухі і іншыя казяўкі. Увечары зьявіліся мясцовыя шпакі і пачалі пець і сьвістаць. 23-III—бачылі кнігавак (Vanellu cristatus), а паляўнічы М. Грынцэвіч бачыў гусей, ляцеўшых на Поўнач. 24-III—бачылі канюка і кулюкоў. 25-III—бачыў стайку драздоў--рабіньнікаў. Бачыў ляцеўшага і чуў сьпевы чорнага дразда (Morala merula L.) Бачыў пралятаючых над кустамі на поўнач стайку даўгахвостых сініц. (Acredula caudata). 26-III—чуў варкаваньне клінтуха. Увечары прыляцелі мясцовыя белыя сітаўкі. 4-IV—бачылі ляцеўшага бусла. 7-IV—бачыў пустальгу (Tununculus alaudarius). 9-IV—чуў сьпевы дразда (Turdus musicus). Чуў крык і бачыў ляцеўшага на П. У. кулюка чорнага (Totanus ochropus L.) Узагнаў у альховых кустах каля возера на сядзібе слонку. Бачыў бусла, ляцеўшага на П. У. Галоўны пралёт гракоў. 10-IV—чуў сьпевы маліпаўкі ці зоранкі. 13-IV прыляцеў на гнязло ў сядзібу самец бусел. 14-IV—вераб'і і шпакі робяць гнёзды. Бачыў асаеда. 15-IV падняў двух канькоў. У варон пачалася кладка яец. 16-IV—бачылі жоўтую пліску, каменку, удода. Прыляцела на гняздо ў сядзібе самка бусел. Чуў сьпевы пеначкі-ценькаўкі, а таксама вясьнічкі. 19-IV—чуў варкаваньне горлінкі. Увечары кукаваньне зязюлі. 20-IV—бачыў краншнэпа. 22-IV—падняў дупеля. 23-IV—бачылі сізаваронку і ластаўку. 25-IV—чуў сьпевы салаўя. У варон поўная кладка яец. Бачыў стаўку у 6-7 ластавак. 29-IV—прыляцела мясцовая сізаваронка.

**М. Ф. Патцэр.**

# ...ЦЬЦЁ ПТАХ

шча імя і па бацьку і адрас асобы, якая рабіла накладаньне.

Усе гэтыя весткі паведамляюцца цэнтральнай установе, якая кіруе гэтай справай і выпускае абручыкі.

Сюды-ж павінны накіроўвацца ўсе зьвесткі і аб здабытых птахах з абручыкамі, г. зн. новая дата і новае месца (адрас).

З зьлічэньнем гэтых двух розных зьвестак, г. зн. месца выпуску птахі і месца здабычы, прымаючы пад увагу таксама і іншыя абставіны, мы атрымаем дакладныя весткі аб пералёце гэтае птахі і можам зрабіць вывад, дзе яна пабывала за гэты час. Такім чынам, чым больш будзе здабыта птах аднаго і таго-ж віда з абручыкамі, тым дакладней будуць зьвесткі аб іх пералёце і тым лепш выявіцца таемнасьць іх пералёту.

Абручыкі выпускаюцца розных разьмераў. З гэтае прычыны іх можна накладаць і на буйных і на самых дробных птах. Абручыкі трэба накладаць перад самым вылетам птушанят з гнязда.

Часьцей за ўсё накладаюць абручыкі на маладых птах, калі іх можна параўнаўча лёгка злавіць. Урэшце, можна лавіць дарослых птах рознымі сецямі і іншымі прыстасабленьнямі. Масавыя спосабы вылаву і накладаньня абручыкаў на птах робяцца на арнітолёгічных станцыях у Заходняй Эўропе і Паўночнай Амэрыцы. Накладаць абручыкі трэба толькі на зусім здаровых птах, інакш траціцца ўсякае навуковае значэньне.

Процант здабычы птах з абручыкамі, калі параўнаць іх з агульнай колькасьцю выпушчаных, вельмі малы. Зусім нямнога вяртаецца абручыкаў з мала культурных краін. Чакаць вынікаў ад накладаньня абручыкаў на птах можна толькі тады, калі гэта работа будзе пастаўлена на шырокую нагу. Чым больш будзе надзета абручыкаў на птах, тым больш іх будзе зьвернута. Вядома таксама і тое, што накладаньне абручыкаў павінна рабіцца навуковымі ўстановамі, якія, зьлічыўшы і вывучыўшы факты, могуць зрабіць адпаведныя вывады.

Ніколі ня трэба надзяваць абручыкаў самавольна, як гэта мы бачым з ліста т. Кошка ў рэдакцыю нашае часопісі (№ 11-12—29 г.). Спадзявацца на зварот такога абручыка нельга. Калі нават якім-небудзь цудам гэты абручык і быў-бы зьвернуты, то карысьці ад яго для навукі мала. Апроч таго, памнажэньне ўзораў абручыкаў, можна сказаць, шкодна для справы.

У нас у СССР у сучасны момант ёсьць свае ўласныя абручыкі і нам незачым зьвяртацца за гэтым за мяжу ці рабіць іх саматужным парадкам.

Абручыкі выпускаюць: „Ленинградский Лесной Институт" (сярэднія разьмеры абручыкаў) і галоўным чынам „Биостанция юных натуралистов" (Москва, Сокольники, Ростокинский проезд, д. № 97).

Апошняя станцыя мае абручыкі ўсіх разьмераў і высылае іх па першым патрабаваньні; трэба толькі паведаміць свой адрас і колькі, для якіх птах патрабуецца абручыкаў. Кошт абручыкаў такі малы, што іх можа набыць самы бедны паляўнічы.

**А. Р. Штам.**

# НАМ ТРЭБА ТАННАЯ

## Паляўнічыя стрэльбы.

*(Працяг гл. № 4 „П. Б.“).*

Затворам называецца тая частка стрэльбы, якая зачыняе і адчыняе руль ў патроньніка. У шампаловак затвораў ня бывае, бо там рулі замацаваны наглуха. Але ў стрэльбаў-ламанак затвор зьяўляецца вельмі важнай часткай, бо мае ўплыў і на моцнасьць стрэльбы і на бой.

Па сваёй канструкцыі затворы ў паляўнічых шротавых стрэльбах у сучасны момант можна падзяліць на дзьве асноўных групы: затворы для стрэльбаў з нярухомымі рулямі і затворы для стрэльбаў-ламанак.

Калі рулі стрэльбы нярухомы—гэта якасьць добрая, але для шротавікоў ня вельмі істотная. Стрэльбы для страляньня шротам, якія маюць нярухомыя ствалы, бываюць выключна аднарульнымі, незалежна ад таго ці яны аднабойныя, ці шматнабойныя (з магазыннай каробкай).

Затворы першай катэгорыі амаль заўсёды ставяцца на аднарулёвыя танныя стрэльбы. Яны маюць наступныя недахопы: празьмерны цяжар, сьпіральная пружына іх часта ломіцца, на марозе дае асечкі, кепска падаюць гільзы в рулі і моцна ляскаюць пры адчыненьні і зачыненьні. Але-ж гэтыя затворы маюць і добрыя бакі, гэта—не патрабуюць асаблівага дагляду, моцны і танны пры вырабе, бо яны, як і ўсе амаль часткі бярданкі, найчасьцей вырабляюцца з старых ці забракаваных частак вінтовак вайсковага ўзору.

Апроч затвора вышэйпаказанага тыпу вельмі добры па сваёй моцнасьці, прастаце і непатрэбнасьці асаблівага дагляду затвор Рэмінгтона (падобны па канструкцыі на звычайны курок). Гэты затвор шырока ўжываецца ў аднанабойных вінтоўках пад моцны патрон. Шротавікі з такім затворам сустракаюцца вельмі рэдка.

Як вядома, ва ўсіх ламанках, ці то паядынках, ці то ў трох рулёўках рулі хістаюцца ўверх і ўніз (пры адчыненьні і зачыненьні). Такая канструкцыя дазваляе лёгка разьбіраць стрэльбу і адымаць ад ложы рулі. Пры гэтай сыстэме злучэньня рулі з ложай, затвор стрэльбы складаецца з некалькіх частак: калодкі, цаўя, ключа, які кіруе затворам і ўдарнай сыстэмы.

Калодкай называецца тая частка стрэльбы, якая злучае рулі з ложай (у ламанках). У яе ўстаўляюцца рулі, у ёй-жа зьмяшчаецца зачыняючы рулі мэханізм і звычайна ўдарная сыстэма.

Калодка ў ламанках мае выгляд сагнутага кутком (каленам) куска мэталю (жалеза, коўкі чугун, сталь). Ніжняя частка калодкі (ляжачае калена) носіць назву—падушкі, а верхняя (стаячае калена)—шчытка. У падушку ўваходзяць крукі рулі, а шчыток запірае рулі каля патроньніка, якія да яго прыціскаюцца пры зачыненьні стрэльбы.

У час стрэлу рулі імкнуцца адчыніцца, хістаючыся на восі шворна, які зьмешчаны ў пярэдняй частцы падушкі. Але гэтаму імкненьню перашкаджае затвор. Ад гэтага пад напорам стрэлу рулі імкнуцца, з аднаго боку, расьцягнуць падушку, а з другога—разагнуць калена. З гэтае прычыны месца злучэньня падушкі з шчытком зьяўляецца самым слабым месцам калодкі, якое і павінна быць па магчымасьці замацавана запасам мэталю.

Наогул-жа ад якасьці матэрыялу і добрай работы цалкам залежыць моцнасьць калодкі, а значыць і моцнасьць і доўгатрываласьць стрэльбы.

Калодка павінна вырабляцца з зусім чыстага мэталю і ня мець ніякіх шчылін, ракавін і інш. Моц калодкі залежыць ад дастатковай таўшчыні яе частак, асабліва ў кутку, утвараемым падушкай і шчытком і ў вышыні і шырыні шчытка. Масыўныя, у сэнсе таўшчыні, шчыткі і шчочкі на шчотку—ніякай карысьці для моцнасьці калодкі ня прыносяць.

Замацаваньне рулёў і калодкі стрэльбы ўчыняецца асобным мэханізмам, які называецца затворам. Кіруе затворам рычаг-ключ. Затворы бываюць як на пружынах, так і бяз пружын. Першыя зараз больш распаўсюджаны. Пры пружыновым затворы злучэньне рулёў у калодцы ўчыняецца аўтаматычна, праз зачыненьне стрэльбы.

Звычайны затвор складаецца з рамкі, якая запірае крукі рулёў. Для павялічэньня моцнасьці затвора дабаўляюць яшчэ трэці кручок, на рулі ў выглядзе працягу прыцэльнай плянкі. Гэты кручок пры зачыненьні стрэльбы ўваходзіць у асобную выемку ў шчытку калодкі і запіраецца там часьцей за ўсё шворнам Грынера.

Амаль што ўсе сыстэмы затвораў, якія зараз ставяцца на ламанках, даволі добрыя, моцныя і адпавядаюць свайму прызначэньню. Важна ня столькі сама сыстэма замацаваньня рулёў у калодцы, колькі дакладнасьць прыгонкі частак затвора.

Затворам, як гэта казалася раней, кіруе асобны ключ, які прыводзіцца ў рух пры адчыненьні стрэльбы—рукой паляўнічага. Ключы ставяцца і зьнізу калодкі, і збоку, і зьверху. Найбольш распаўсюджаным і зручным зьяўляецца верхні ключ—між куркамі—Грынера.

Затворы ў большасьці сучасных ламанак зроблены так, што, калі-б ня было яшчэ аднаго прыспасабленьня—цаўя, дык рулі стрэльбаў пры адчыненьні затвора адпадалі-б зусім ад калодкі. Цаўём называецца частка ложы стрэльбы, якая прыцягвае рулі да калодкі, а таксама служыць падспор‘ем затвору і не дае ствалам, як гэта казалася вышэй, выляцець з калодкі пры адчыненьні затвора. Цаўё ў ламанках зроблена так, што яно служыць і для выкіданьня гільз з патроньніка. Сыстэма цаўя ніякага значэньня ня мае.

Ударныя мэханізмы ці замкі ў большасьці стрэльбаў з коўзкімі затворамі зьмяшчаюцца ўнутры самага затвора. У іншых сыстэмах затвораў—ударныя мэханізмы аддзелены ад затвора. Баявыя пружыны гэтых замкоў—доўгія і моцныя, а таксама лепш захаваны ад сырасьці і забруджаньня.

Гэтыя замкі падзяляюцца на дзьве групы—курковыя і бязкурковыя, хоць і ў той і ў другой сыстэме

# І ДОБРАЯ СТРЭЛЬБА.

куркі ёсьць. Толькі ў так званых бяскурковых, куркі ўнутры, а ў курковых знадворку.

Курковыя замкі робяцца двух тыпаў—падкладныя, у якіх баявая пружына знаходзіцца ўперадзе курка, і замку „ў шыйку“, у якіх баявая пружына знаходзіцца ззаду курка.

Пры ўразаньні падкладнога замка ў ложу прыходзіцца выразаць і кавалак дрэва, таму гэтыя замкі ў ламанках не практычны, бо аслабляюць калодку. У шампалоўках-жа падкладны замок нічым не аслабляе моцнасьці стрэльбы і падкладныя замкі там больш практычны, бо замкі ў шыйку аслабляюць шыйку ложы. Апроч названых тыпаў замкоў часта сустракаецца і трэці тып курковых замкоў—паўпадкладныя. Зроблены гэтыя замкі так, як і замкі ў шыйку, толькі баявая пружына іх кароткая. Такія замкі не аслабляюць ні калодкі, ні шыйкі. Калі пружына ў такіх замкох даволі моцная і ня вельмі цьвёрдая, то яны адзінакава добрыя і для шампалоўкі і для ламанак.

Куркавы замок часта мае два ўзводы: забясьпечны і баявы. Паставіўшы курок на забясьпечаны ўзвод, паляўнічы гарантыраваны ад выпадковага стрэлу, бо з гэтага ўзводу, курок, нават пры націснутым спуску, ня ўдарыць па байку ці пістону. Для спуску-ж яго з забясьпечнага неабходна раней паставіць на баявы ўзвод. Вельмі часта куркавыя замкі робяцца ўзваротнымі, г. зн. такімі, у якіх курок стрэльбы пасьля ўдару па байку аўтаматычна становіцца на забясьпечны ўзвод.

Сыстэм бяскурковых замкоў шмат. Каб не аслабляць калодкі стрэльбы, лепш такія сыстэмы, у якіх ударныя мэханізмы былі-б устаноўлены ня ў вырэзах калодкі стрэльбы ці пярэдняй часткі яе, або на асобных дошках, на бакох ложы. Узвод унутраных куркоў замка ўчыняецца або рычагом, які кіруе затворам стрэльбы (ключом), або апусканьнем рулёў уніз пры адчыненьні. У апошнім выпадку рулі давяць на так званы пад'ёмнік, які праходзіць праз калодку стрэльбы. Першая сыстэма не аслабляе калодкі і, вядома, практычней, але вельмі рэдка сустракаецца.

Неабходнай прыладай кожнага бяскурковага замка зьяўляецца забясьпечнік (перасьцярожнік), які запірае спускі. Гэта тлумачыцца тым, што ў стрэльбах пры такіх замках нельга ведаць, ці ўзьведзены куркі.

Забясьпечнікі бываюць як аўтаматычныя, так і не аўтаматычныя—кіруемыя пальцам рукі паляўнічага па жаданьні. Забясьпечнікі звычайна ўстанаўляюцца ў выглядзе гузіка або зьверху шыйкі стрэльбы, або на баку пярэдняй часткі ложы.

Спускі ў шратавікоў не павінны быць вельмі тугімі, але і ня вельмі лёгкімі, бо асабліва дакладнага прыцэльваньня пры страляньні шротам не патрабуецца.

Для кожнае ламанкі патрэбны экстрактар, г. зн. мэханізм, які выкідае з патроньніка гільзы. У стрэльбы з нярухомымі рулямі гільзы выкідаюцца адначасна з адчыненьнем затвора, а ў ламанках—з адкіданьнем уніз рулёў.

Ад сыстэмы экстрактара залежыць хуткасьць стральбы.

У стрэльбах з нярухомымі рулямі экстракцыя гільз—хворае месца стрэльбы. Выключэньнем могуць быць аўтаматычныя стрэльбы, экстракцыя гільз у якіх—пры умове, калі яны добрай якасьці—вельмі добрая. У гэтых сыстэмах гільзы звычайна ня толькі высоўваюцца з патроньніка, але пры раптоўным пацягненьні за ручку затвора выкідаюцца зусім.

У ламанках двухрулёўках экстрактар знаходзіцца пад патроньнікам між сьценак рулёў. У паядынках—пад рулём. Экстрактарам кіруе цаўё або асобны кручок на калодцы стрэльбы. Экстрактар не павінен боўтацца ў сваім гняздзе, а таксама і туга хадзіць. Дакладная прыгонка яго і добры матэрыял—неабходны для яго добрай работы.

У некаторых стрэльбах экстрактары робяцца так, што страляныя гільзы пры адчыненьні стрэльбы выкідаюцца самі з патроньніка. Выраб такіх экстрактараў (эжэктараў) даволі складаны і дарагі, і ў нашых расійскіх умовах, асабліва пры дарагавізьне гільз, ён не патрэбны.

**Н. М.**

(Канец у наступным нумары).

## Якая нам патрэбна стрэльба.

Тав. Берасьнёвым сканструктавана на Іжаўскім дзяржаўным заводзе новая мадэль шратавіка „ІЖ. 8“. Перш чым зрабіць і выпусьціць новую стрэльбу для нашага паляўнічага, трэба шырока абгаварыць пытаньне ў нашым паляўнічым друку, якая стрэльба нам патрэбна. У абгаварэньні гэтага пытаньня павінны прыняць удзел як аружэйнікі, так і паляўнічыя масы.

Нам патрэбна стрэльба танная, моцная і з упрошчаным мэханізмам. Вядома, трэба, каб яна была і прыгожая. Пажадана бяскуркоўка, але сучасныя бяскуркоўкі для радавога паляўнічага ня зручны толькі па аднаму таму, што іх кепска разьбіраць і чысьціць.

Нам трэба зрабіць такую бяскуркоўку, якая б лёгка разьбіралася. Апроч таго, у сучасных бяскуркоўках такая сьпіральная баявая спружына, што калі яна зломіцца, дык паляўнічы надоўга застанецца бяз стрэльбы. Ня ўсякі сьлёсар можа зрабіць такую прунжыну.

Каб стрэльба была танная, трэба ўпрасьціць як запіральны, так і ўдарны мэханізм.

Усё гэта можна будзе зрабіць, па мойму, шляхам правядзеньня конкурсу. Жадаючых удзельнічаць у конкурсе майстраў неабходна задаволіць матэрыялам для ствалоў, калодкамі, балванкамі арэха, устанавіць тэрмін для здачы мадэляй і потым, якая мадэль вытрымае конкурс, тую прыняць да масавага вырабу.

У СССР ёсьць шмат добрых аружэйнікаў штучнікаў, але зараз некаторыя з іх працуюць не па сваёй спэцыяльнасьці.

Пра стрэльбу Берасьнёва я чытаў у „Охотничьей газете“, а самой стрэльбы ня бачыў, таму нічога аб ёй сказаць не магу.

**Шчэрба.**

# АБЛАВА*).

*Канец.*

II.

Стрэлы сьціхлі,
І водгульле зьнікла
У даль,

Гэта значыцца
Скончана справа
І рака, што цячэ
Ў лесе...

Рогатам хваль
Гаварыла пра гэту
Аблаву:
„Пазабівалі,
А колькі 'шчэ ёсьць,
Захаваўшых старанна
Аблічча.

Да сябе вабіць
Так маладосьць:
— Зрок напружаны,
Сіла ў руках
Паляўнічых.

Гаварыла рака,
Рокат хваль
Ня сьціхаў,
Цішыню зварухнулі
У лесе.

Дзень на захад ішоў,
Зморany пазяхаў,
І здалёку каціласяся
Песьня:

„Шапацелі лісты:
Не шкадуй, дружа ты,
Гэты срэбраны шоўк
Патаптаў шэры воўк.
Патаптаў... вызваў шум,
Толькі й чуеш: шшу...
Ш-шу...

Маладзік не сьвяціў,
Клён зялёны ня цьвіў.
Ня цьвілі верасы,
Бо зімовая стынь,
Ахінула лясы і
Сьцюжа
Запляла валасы
Ноч...

Ў дзьве касы...
Вецер сьнег
І цярушыць...
І кружыць...
Недзе выюць ваўкі,
Але змоўкнуць яны.
Паляўнічы
Аблаву ня спыніць
... Над прасторам
Лясоў,

Шызы дым...
Туманы.
Ў туманох
І Дняпро
І Прыпяць“.

* * *

Золака срэбраны шоўк
З гольлейка вецер рассыпаў,
Нідзе не схаваецца воўк.
Бацька заменіцца сынам.
Хай-жа мацнее зьвязак,
Якасьць і колькасьць расьце,
Выконвае свой абавязак.
— Зьнішчыць н'ат
І воўчую цень.—

---

*) Гл. № 4.

# Сьмелы драч*).

*(Малюнак з натуры).*

Цёпла. Нават ня цёпла. Было вельмі горача. Я абліваўся потам і скакаў з купіны на купіну, аступаўся і тады пападаў па пояс у дрыгву. Ня было чым дыхаць. Я вельмі стаміўся і, здавалася, расьцягнуўся-б от тут паміж купінамі, абросшымі высокай асакой, у гразі і не варухнуў-бы нават пальцам, пакуль не спаўзе ўніз медны таз сонца і з захаду не павее халадком.

Мая „Ірма“ адчувала мусіць тое-ж самае. Яна страціла самае галоўнае—нюх і „чысьціла мне шпоры“. Як толькі я аступаўся і садзіўся ў дрыгву, „Ірма“ настаўляла на мяне свае жоўта-карыя вочы, у якіх сьвяцілася просьба крыху адпачыць, але я вылазіў з трасіны і ішоў зноў.

— Што, шэльма, змарылася?

Сучка ў адказ паказала чырвоны касьнік языка, з якога капала пена і ласкава завіляла „алоўкам“ **).

У гэты час я падышоў да канавы, якая праразала балота і ўлівалася ў рэчку. Вада выходзіла з берагоў.

— Ну, а тут, што зробім, Ірма?

Сучка, не адказаўшы на маё запытаньне, стала смачна хлябаць ваду, пры чым яе язык, як ліст лапухі, хлёпаў па вадзе і стаў прымаць іншы адценак.

Я перакінуў на другі бок канавы ламанку, потым патранташ і торбу, на якой віселі два доўганосікі. Гэтыя галапузыя дупялі зараз больш выглядалі на лягушку. Яны без пары былі засмажаны на сонцы і страцілі свае пёры, а разам з імі і прыемны від, пачарнелі.

Аслабаніўшыся трохі ад лішняга грузу—ламанкі і патронаў, я ўзьлез на самую найвышэйшую купіну і прыгатаваўся пераскочыць канаву, загадаўшы тое ж самае рабіць Ірме. Калі я ўхапіўся за бераг і як бабёр вылазіў з вады, сучка выкарыстала гэты момант і з піскам скакнула мне на плечы. Я ад нечаканасьці выпусьціў траву, за якую трымаўся, і разам з Ірмай апусьціўся ў ваду.

Ірме не падабалася купацца разам з гаспадаром. Яна заплюснула вочы і паплыла на бераг. Пры гэтым моцна біла лапамі аб воду і пырскі пападалі мне ў рот, у нос і ў вочы.

Мне спачатку здалося, што мае ногі папалі ў нейкі клей на дне канавы. Я з перапуду ўхапіўся за хвост Ірмы ў той час, калі яна ўжо моцна трымалася пярэднімі лапамі за бераг. Сучка, мусіць, падумала, што я хочу яе патапіць і агрызнулася. Я выпусьціў „прут“ ***) і зноў акунуўся ў пекла.

Калі я, як небудзь, выбраўся на цьвёрды грунт, выглядаў больш на якога-небудзь морскага цюленя, чым на чалавека. Адсюль як з дзіравага мяшка цякла вада і я дрыжэў ад холаду. А сучка за гэты час распарадзілася па свойму. Яна ўтаптала ў гразь паміж купін маю куртку, патранташ і лягла на іх.

— Што ты, дурная, звар'яцела сёньня?—узлосьці крыкнуў я і працягнуў руку да лазіны. Я гатоў быў у гэты час даць ёй урок ласкавага абыходжаньня з гаспадаром, які яе ня дрэнна корміць і шкадуе як дачку.

Сучка вінавата паглядзела на мяне, піскнула і завіляла хвастом. Урок, які я сабраўся толькі што даць Ірме, прышлося адкласьці да наступнага разу.

Мы прывялі сябе трохі ў парадак і накіраваліся на сухое месца, дзе можна было-б паляжаць і абсушыцца на сонцы. Не прайшло і трох мінут, як Ірма спынілася як укопаная. Кожная частачка яе цела была напруджана і дрыжэла. Па целу нацягнуліся жылы. Яна стаяла на трох нагах і паказвала мне на купіну, пад якой, відаць, сядзела птаха. Я зьмяніў патроны з буйным шротам на дробны і падаўся наперад.

— Ну Ірма, піль!—яшчэ ўзлосьці ад мінулага, загадаў я. Сучка яшчэ горш задрыжэла і больш выцягнулася. Я стаў падпіраць яе памалу

---

*) Птаха—з сямейства балотных курачак.

**) Алувак (карандаш) абазначае ў пойнтэраў хвост.

***) Тое самае, што „аловак“.

* * *

Цішыня...
Лес маўклівы стаіць...
Ўсе сьцяжынкі ў нейчых
Сьлядох,
І здаецца:
Ў аддалях зьвініць
На балоце ля лесу—
Мох.
І мацнее
Скрыпяць палазы,
Ўсё бліжэй...
І мацнее звон.
Золак—
З ціхай усьмешкай
Глядзіць
І гаворыць:
— Моладосьць—Ён!
Ля балота
Крыніца журчыць
У мажорах крінічыць
Няспынна:
— На аблаву...
Вітаю пачын,
Паляўнічы
Савецкай
Краіны.

**Вазёрны.**

каленкам і прыглядацца да купіны. А Ірма ўсё стаяла як нацягнутая на скрыпцы струна і гаварыла жоўта-карымі вачыма: „Ды вось-жа птаха, вось, хіба ты ня бачыш"?

І ў гэты момант я ўбачыў шэры камок пад купінай. То сядзеў драч. Яго маленькая, як цыбулінка галоўка, з дзьвюма чорнымі бліскучымі кропкамі выглядала з травы на нас, але драч не ўлятаў. Я ўзяў на перавес ламанку і катэгарычна загадаў Ірме рухацца ўперад.

— Ну, арыстакратка, уперад гавару табе, шкорада.

Яшчэ горш выпрастаўся і натужыўся прут, пры чым кончык яго стаў дрыжэць, як асінавы лісток у ліпнёвую ціхую ноч, а Ірма нават не варухнулася. У мяне больш нехапала нэрваў цярпець.

— Што-ж, забіць цябе тут сідзячага?—запытаўся я сам у сябе.—Але што-ж ад цябе застанецца?

Я нацэліўся ў драча і надавіў спуск. Асечка. Надавіў на другі. Таксама асечка. А Ірма, здавалася, згарала над птахай. Яе цела канвульсыўна ўздрыгвала. Яшчэ вышэй падцягнула пярэднюю нагу.

— Здохнеш... Уперад!—крыкнуў я. І сучка ткнулася мордай у траву, але зноў застыла на месцы.

Я зьмяніў патроны і рашыў пакончыць з драчом. Нацэліўся і надавіў на спуск. Асечка. А драч сядзеў на адным месцы і глядзеў сваімі дзьвума чорнымі бліскучымі кропкамі на Ірму і на мяне. „Чорт яго ведае, магчыма які пакалечаны, ці ня лётны? А ўсё-ж цікава". І толькі я падумаў зноў націснуць на спуск, як з алешыны, што стаяла з боку ад мяне, нешта сарвалася і з шумам паляцела.

Я зірнуў уверх. У накаленым сонцам паветры, як ласкут, вісела шэрая птаха.

— Каршун, што-б ты здох! Тады я зразумеў сьмеласьць драча. Мой уцалеўшы ад асечкі набой паляцеў у накалены сонцам прастор. Каршун перавярнуўся і, як стары грыб-махавік, шлёпнуўся аб дрыгву.

Калі я абярнуўся назад, Ірма ўжо ня дрыжэла над купінай, а на месцы, дзе сядзеў драч, застаўся з срэбраную грыўню значок. Драч уляцеў.

**М. Я. Цэлеш.**

**Перабудуем працу паляўнічае каапэрацыі, наблізім яе да**



**паляўнічых, вытворчасьці, саўгасаў і калгасаў.**

# КАЛІ МЫ НАВУЧЫМСЯ ПРАЦАВАЦЬ

## Сэзонныя прарэхі.

Летась я спаткаў два разы паляўнічых, якія несьлі забітых маладых цецярукоў і разам з імі старак-цяцёрак. Адзін, са спатканых мною, быў „сьвядомы, культурны“ паляўнічы, а другі менш сьвядомы, звычайны селянін. Але абодвы гэтыя паляўнічыя аднолькава сароміліся, паказваючы старак-цяцёрак. Не сьцярпелі, забілі...

Усе зразумелі ўжо, што адстрэльваць старак-матак пры маладых цецярукох ня трэба, гэта шкодна адбіваецца на павялічэньні колькасьці дзічыны. Ды і ў страляньні схуднелай маткі, якая адводзіць небясьпеку ад дзяцей, нічога цікавага няма; ад такога стрэлу ні прыемнасьці, ні спажывы. Аднак-жа, мы да гэтага часу ня маем у правілах паляваньня забароны страляць матак-цяцёрак пры вывадках. Пара забараніць біць старак пры маладых.

Вышаў я 2 мая за горад. Бадзячых сабак каля Менску процьма; налічыў больш за дзесятак. Гарадзкія паляўнічыя ня выходзяць страляць сабак. А пабіць іх было-б вельмі карысна, пакуль яны не пералавілі ўсіх маладых зайчанят, якіх каля гораду ёсьць нямала.

Прышоўшы тады-ж 2 мая ў Дразды, я спаткаў цэлую стаю сабак: 3-х добрых ганчакоў і двух здаравенных „надворных саветнікаў“. Усе яны бадзяліся на сенажаці на адлегласьці $^1/_3$—$^1/_2$ кілёмэтра ад хутара. Яны напалі на майго выжла і пакусалі яго. Як я потым даведаўся, уся гэтая стая была паляўнічага Галубовіча, пра якога і летась пісалі ў часопісі, што ён сваіх сабак вясною і ўлетку пушчае вольна бадзяцца ўсюды па ўгодзьдзях. Трэба раз назаўсёды пакончыць з такім „дысцыплінаваным“ паляўнічым і выключыць яго з саюзу?

**Тамаш.**

## „Сацспаборніцтва“ ў Слуцкім райкалектыве.

*(Бабруйшчына).*

Сацспаборніцтва зьяўляецца адным з лепшых рычагоў падняцьця і аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі. Але яшчэ ня ўсе ў нас, у Слуцкім райбюро, уявілі гэта значэньне. Таксама і з боку акруговага т-ва няма кіраўніцтва сацспаборніцтвам. Ва ўсёй Бабруйскай акрузе мала знойдзецца такіх раённых калектываў, якія-б ўступілі і праводзілі-б сацспаборніцтва. Для прыкладу я прывяду такі факт.

Слуцкі калектыў паляўнічых праз газэту „Камуніст“ выклікаў усе райкалектывы паляўнічых Бабруйскай акругі на сацспаборніцтва, але ня выставіў сваіх пунктаў сацспаборніцтва і не заключыў з імі дагавароў. Вядома, што пры такіх умовах сацспаборніцтва не праводзіцца.

У часопісі „Паляўнічы Беларусі“ пісалася, што першы год пяцігодкі сарваны. Зараз можна сказаць, што пры такім сацспаборніцтве будзе сарваны і другі год пяцігодкі.

Трэба падумаць аб гэтым.

**Былінка.**

## Больш увагі зайцу.

Вопыт апошніх год паказаў, што пушныя загатоўкі складаюцца, галоўным, чынам з вавёркі, зайца і ліса. Гэтыя зьверы найбольш прыбытковыя як для дзяржавы, так і для паляўнічага.

Ліса ў нас у Віцебскай акрузе мала і чакаць павялічэньня яго колькасьці ня прыходзіцца на волі, такое-ж становішча і з вавёркамі: лік яе можа павялічыцца толькі ад забароны паляваньня на некалькі год. Іншая справа з зайцам. На гэтага зьвярка нам пара даўно зьвярнуць увагу. Зайца здабываюць самыя шырокія колы паляўнічых амаль што ўсе. Заяц дае кожнаму паляўнічаму прыбытак: за скурку 55 кап. і некалькі кілёграм смачнага сытнага мяса. Заяц вельмі хутка плодзіцца і толькі адно гэта выратоўвае яго ад поўнага зьнішчэньня. Вось на яго мы і павінны зьвярнуць увагу. Мы павінны зрабіць захады для павялічэньня ліку гэтага прамысловага зьвярка.

Мая думка такая: тэрмін паляваньня на зайцоў устанавіць з 1 лістапада па 15 лютага. Ад гэтага будзе карысьць пушным загатоўкам, бо палепшыцца якасьць скурак зайца; наладзіць барацьбу з бадзячымі сабакамі, асабліва з 1 сакавіка па 1 ліпеня; падсяваць травы да захаваньня і падкормкі зайцоў; падкармліваць зайцоў узімку, дасьледваць тушкі зайцоў на прадмет выяўленьня хвароб і, калі такія будуць заўважаны, вывучаць іх і прымаць сваячасова захады.

Калі мы гэта ўсё зробім, то колькасьць зайцоў бязумоўна, павялічыцца.

**Б. С.**

## Зьнішчым драпежнікаў.

Сёмкава-Гарадзецкая сельячэйка паляўнічых, Заслаўскага раёну, на сваім пасяджэньні пастанавіла ўзмоцніць барацьбу з драпежнікамі і браканьерамі, для чаго выбіць звыш нормы па 5 балаў кожнаму паляўнічаму дадаткова і выклікаць на сацспаборніцтва па зьнішчэньні браканьераў і драпежнікаў Бароўскую сельячэйку.

**М. Патцэр.**

## Аб выстаўцы ня чуць.

*(Слуцкі раён, Бабруйшчына).*

Ня гледзячы на тое, што да Ўсебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці засталося мала часу, у нас да выстаўкі зусім не падрыхтаваліся, а некаторыя нават аб выстаўцы і ня чулі.

Трэба да выстаўкі прыцягнуць масы паляўнічых і пакуль ня позна падрыхтаваць экспанаты.

**Цімка.**

# РЫБАЛОЎ ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ

## як кормяцца рыбы.

Як і ўсё жывое на зямлі, рыбы, для падтрыманьня дзейнасьці свайго арганізму, павінны карміцца. Характар корму і спосаб ужываньня іх рознымі рыбамі—розныя. Адны рыбы кормяцца толькі жывёлай, другія—расьлінамі, трэція, урэшце,—і расьлінамі і жывёлай. Апошнія называюцца ўсёеднымі. Большасьць рыб кормяцца ўсякімі дробнымі жывёламі.

Мал. 1.

Такіх рыб можна падзяліць да дзьве катэгорыі: рыбы, якія паядаюць самых сябе, іншы раз лягушак і нават дробных вадзяных птах, і рыбы, якія харчуюцца дробнымі, бясхрыбтовымі жывёлінкамі, чарвямі, ракушкамі, малымі ракамі і г. д.

Рыбы, якія паядаюць самых сябе, называюцца драпежнымі. З прэснаводных рыб тыпічнымі драпежнікамі зьяўляюцца: шчупак, сом, налім, лосась; з морскіх—акула, скат, трэска. Амаль усе рыбы ў раньняй маладосьці кормяцца або дробнымі жывёлінкамі, або ніжэйшымі расьлінамі і толькі калі падрастуць становяцца драпежнымі.

Так, шчупак у маладосьці корміцца дробнымі рачкамі, матылём або вусьнямі іншых казявак, але, калі падрасьце, найлепшым кормам для яго зьяўляецца рыба, лягушкі, вадзяныя пацукі і качкі.

Некаторыя рыбы, што кормяцца дробнымі жывёлінкамі, здабываюць апошніх на дне, або каля берагоў, а іншыя выкарыстоўваюць для гэтай мэты так званы планктон*). Гэты планктон і зьяўляецца крыніцай жыцьця для шмат якіх рыб. На малюнку № 1 паказаны два тыпічных мікраскапічных планктонных рачкі: цыклоп і дафнія. Планктонам кормяцца сігі і ўклейкі, а ў моры—сялёдкі, сардзіны, шпроты. Шмат і іншых рыб—драпежных і ўсёеедных—у маладосьці кормяцца планктонам. Зразумела, што для таго, каб наесьціся, рыба павінна праглынуць вялікую колькасьць вадзяных дробных жывых стварэньняў. У жываце сіга налічваюць да 50.000 дробных рачкаў. Для корму некаторых рыб вялікае значэньне мае зяберны апарат. Калі ўзяць зяберную дугу (гл. мал. 2) той рыбы, якая корміцца планктонам, і рыбы драпежнай, дык заўважым наступную розьніцу. У першай зяберных тычачак, якія сядзяць на ўнутраным баку зябернай дугі, шмат і яны тонкія, у другой-жа іх мала, і яны кароткія і тоўстыя. Тлумачыцца гэта тым, што ў рыб, якія кормяцца планктонам, зяберныя тычачкі служаць для затрыманьня ў глотцы дробных жывых стварэньняў. Такім чынам рыба, для таго, каб наесьціся, прапускае праз зябры ваду. Жывыя стварэньні, якія знаходзяцца ў вадзе, застаюцца на тычачках, а потым пападаюць у жывот. Для рыбы драпежнай такія прыстасаваньні непатрэбны, а таму ў яе пабудова зяберных тычачак іншая.

Мал. 2.

Мал. 3.

Карп, лінь, ялец, ерш, карась і іншыя кормяцца дробнымі жывёлінкамі, якія жывуць у твані ці проста на дне. Найлепшымі харчамі для іх зьяўляецца яркачырвоны матыль, які мае выгляд чарвяка. Гэты матыль зьяўляецца вусенем камара-таўкунчыка (гл. мал. 3), з якога пасьля выходзіць камар-таўкунчык. Апроч таго, у твані жывуць розныя чэрві і молюскі (гл. мал. 4). Усе гэтыя стварэньні таксама служаць кормам для рыб. Толькі некаторыя рыбы абмяжоўваюцца кормам з расьлін, г. зн. водарасьлямі (гл. мал. 5). Да такіх рыб належыць, напрыклад, падуст.

Мал 4.

Ад характару корму рыб залежаць і іх спосабы жыцьця. Драпежныя рыбы звычайна жывуць па аднэй, а рыбы недрапежныя зьбіраюцца ў статкі.

Мал. 5.

Добры рыбалоў павінен ведаць, дзе і як кормяцца рыбы, бо ўлоў у значнай ступені залежыць менавіта ад веданьня жыцьця рыб.

**В. Е.**

## Смоўж-балацянік і пагібель рыб.

У Нямеччыне ў аднэй гаспадарцы па разьвядзеньні фарэлі была заўважана масавая пагібель рыб. Зробленае дасьледваньне паказала, што фарэлі гінулі па віне вадзянога смаўжа-балацяніка. Гэты смоўж даволі шырока распаўсюджаны ў прэсных водах. Смоўж-балацянік пры вядомых абставінах, галоўным чынам, пры парушэньні нармальнага жыцьця, можа вырабляць асобны сакрэт. Гэты сакрэт пасьля таго, як яго смоўж выпусьціць, расчыняецца ў вадзе. Пры вядомым скапленьні гэтага сакрэту ён зьяўляецца моцнай атрутай, ад якой і гіне шмат рыбы. Атрута гэта выклікае спазмы, якія і зьяўляюцца сьмяротнымі для рыбы. Нажаль пакуль не ўдалося знайсьці ўмоў, пры якіх балацянік вырабляе гэту атруту. Пастаўленыя досьледы ў акварыумах з рознымі рыбамі паказалі, што атрута балацяніка зьяўляецца найбольш небясьпечнай для тых рыб, якія патрабуюць вялікае колькасьці тлёну ў вадзе, г. зн. для фарэлі, шчупака, уклейкі. Плотка, лешч, карп, чахонь і іншыя падпаюць атруце менш.

**В. Есіпаў.**

---

*) Планктон—насельніцтва вады.

# З МЕЙСЦ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ.

**Выкінем кулакоў.** У лістападзе 1929 г. Ясенскай ячэйкай (Асіпавіцкага раёну, Бабруйскай акругі) была праведзена чыстка сваіх членаў. Выкінута 11 кулакоў. Але чыстка яшчэ ня скончана, бо ў нашых радах ёсьць шкоднікі паляўнічай гаспадаркі, якіх таксама трэба павыкідаць з саюзу паляўнічых.

**Буравесьнік.**

**Ад браканьераў ніяк не пазбавіцца.** У Асіпавіцкім раёне праведзена вялікая работа па барацьбе з браканьерствам і шмат браканьераў атрымалі заслужанае. Але-ж мы канчаткова ад іх не пазбавіліся. Больш хітрыя і зараз маюць стрэльбы і палююць. Міліцыя некалькі разоў рабіла наскок на гэтых спэцаў, але злавіць і адабраць стрэльбы не ўдалося і браканьеры шкодзяць. З наступленьнем вясны там-сям чуюцца стрэлы на балоце ўраньні.

На мой погляд трэба штрафаваць браканьераў, калі 2—3 сьведкі даводзяць, што ён браканьерствуе, а ганяцца за стрэльбай, якая каштуе 50 „ламаных“ капеек, няма сэнсу.

**Бочак.**

**Абралі і забыліся.** Яшчэ не прайшло і году, як былі перавыбары Асіпавіцкага райбюро, а аб іх ужо ўсе забыліся. На першы погляд здавалася, што абралі даволі працаздольных асоб. Але-ж працы і дагэтуль ня відаць. Тлумачыцца гэта тым, што амаль 75 проц. членаў райбюро заклапочаны сваёй платнай працай, а на паляўнічую гаспадарку не зьвяртаюць належнай увагі. У выніку гэтага пасяджэньняў бюро ня бывае па 5 месяцаў, спаборніцтва ні з кім не заключана, слаба праводзіцца каапэраваньне беднаты, культпрацы няма.

Таксама працуюць і паляўнічыя ячэйкі на мясцох. Імі ніхто ня кіруе і ня цікавіцца.

Трэба сказаць, што райбюро стаіць у баку ад жыцьця вёскі наогул. Ніякага ўдзелу ў калектывізацыі вёскі ня прымаецца.

**Буравесьнік.**

**Браканьеры зноў распаясаліся.** З надыходам вясны ў нашым Уравіцкім раёне, Гомельскай акругі, зноў пачалі драпежнічаць браканьеры. Ураньні ці ўвечары так і грыміць страляніна на балотах. Паляўнічыя вядуць барацьбу з браканьерамі, але кепска дапамагае міліцыя і сельсаветы, а бяз іх удзелу барацьба праходзіць ня зусім удала.

**Оўскі.**

**Шэрыя „абшарнікі“ за работай.** Хоць і вядзецца вялікая барацьба з ваўкамі Уваравіцкімі паляўнічымі (Гомельшчына), усё-ж такі яны зноў сталі наносіць вялікую шкоду сельскай гаспадарцы. Гэта паказвае на тое, што ваўкоў у нас яшчэ шмат.

Надоечы яны задушылі каня ў засьценку „Зялёнаўка“, Чабатовіцкага сельсавету. З наступленьнем ліпеня трэба паляўнічым пачаць работу па разбурэньні воўчых логаваў і зьнішчэньні выводкаў.

**А. Д.**

**Пушніну не здавалі ў сваю каапэрацыю.** У Быхаўскім раёне, Магілеўскай акругі, культработа сярод паляўнічых праводзіцца кепска. А адсюль вынікі—як пачалося паляваньне на зьвера, дык паляўнічыя шрот і іншыя прылады бралі ў паляўнічай каапэрацыі, а пушніну здавалі прыватнікам, на базары. Напрыклад, паляўнічыя Запаскі Рыгор і Кіяшка Максім забілі 10 норак, а здалі саюзу паляўнічых толькі дзьве.

Гэта тлумачыцца яшчэ і тым, што кепска пастаўлена прыёмка пушніны ў райбюро. Няма дакладнага стандарту на пушніну і інш. прычынамі.

**Назіраўшы.**

**Забілі 2 ваўчыцы і 1 ваўка.** Паляўнічыя Мсьціслаўскага раёну, Аршанскай акругі, скарысталі апошнюю парошу 1 і 3 красавіка для правядзеньня аблаў. Аблавы адбыліся загонам. Забіта 2 ваўчыцы і 1 воўк, які заважыў да 4 пудоў. У ваўчыц знойдзена 15 ваўчанят.

Раней паляўнічыя ня верылі ў працаздольнасьць райбюро. Але з пераходам яго на гаспадарчы разрахунак, пасьля перавыбараў, праца ажывілася. Зараз ужо ёсьць вынікі гэтай працы.

**Б.**

**Ахоўваецца кепска** (Уваравічы, Гомельскай акругі). У нашым раёне ёсьць урочышча Пушча. Там калісьці было шмат дзічы. Гэта самае лепшае месца для паляваньня ва ўсім раёне. Але кепска тое, што ў апошнія часы ніхто не даглядае за гэтым урочышчам і дзічына там зьнішчаецца сабакамі, а якія забіраюцца нярэдка людзьмі.

Трэба, каб сельсавет дапамог паляўнічай ячэйцы зьнішчыць такія адносіны да паляўнічых угодзьдзяў.

**Карл.**

**Зьнішчана 5 старых ваўкоў.** Па Рэчыцкаму раёну (Гомельская акруга) актывам Дуброўскай сельячэйкі паляўнічых у сэзон 1930 г. зьнішчана 5 старых ваўкоў, з іх 2 ваўчыцы. У 1929 г. такой удачы ня было. Тады мы ведалі мала спосабаў барацьбы з ваўкамі. З сьцяжкамі рабілася аблаў мала, а больш з загоншчыкамі. А гэтыя аблавы грамоздкія і ўдала правесьці іх цяжка. У 1930 г. мы палявалі на ваўкоў больш са сьцяжкамі і вынікі добрыя.

Трэба, каб райбюро Рэчыцкага калектыву не забылася на Дуброўскую ячэйку і дапамагла нам, прэміравала-б актыў, бо нашай ячэйкай шмат зьнішчана і ваўчанят улетку. Па-мойму трэба весьці барацьбу з ваўкамі ў парадку сацспаборніцтва, а таксама падвысіць прэмію за забітага ваўка. Зараз плоціцца толькі 5 руб., а ці на 5 руб. прыносіць шкоды воўк за свой век? Скурак-жа ваўкоў, забітых улетку, ня прымаюць. Былі выпадкі, што бюро калектыву пасылала здаваць скуркі ў Дзяржгандаль, а там плацяць па 12 руб. Калі так будзе і надалей, дык паляўнічыя панясуць і скуркі іншых зьвяроў у Дзяржгандаль.

**Радчук.**

**Райбюро на замку.** Калі ня прыдзеш у райбюро Уваравіцкага калектыву (Гомельская акруга), амаль заўсёды яно на замку. Старшыня т. Войтаў не заходзіць туды.

Прыдзеш купіць шроту ці чаго-небудзь за 20—30 кілёмэтраў—ня купіш. Пушніну таксама прыходзілася вазіць туды ды назад і, урэшце, здаваць у акруговае таварыства за 50 кілёмэтраў.

Наогул пушніна прымалася райбюро кепска. Аднаму плацілі 65—75 кап., а другому 75—80 за скурку ваверкі аднэй і тэй-жа якасьці.

**Карлоўскі.**

# Хутчэй пабудуем
## САМАЛЁТ „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

### Уносяць і выклікаюць.

**ПАЛЯЎНІЧЫЯ РЭЧЫЦКАГА КАЛЕКТЫВУ: Філіпенка Аляксей—1 руб., Яхновіч Ананас—1 руб., Шупікаў Лука—1 руб., Чарнашэй Мікола—1 руб., Разборскі Васіль—1 руб., Сьцефановіч Аляксей—1 руб., Сыч Мікола—1 руб., Дворнік Хвёдар 1—руб.**

**ПАЛЯЎНІЧЫЯ БРАГІНСКАГА КАЛЕКТЫВУ: Палхоўскі Міхась Антонаў—1 руб., Шылец Ціхан Кузьмоў—1 руб., Ляшчун Пётр Міхасёў—1 руб., Каваленка Іван Уласаў—1 руб., Прыходзька Цярэнці Сямёнаў—1 руб., Грыгорэўскі Мікола Ціханаў—1 руб., Сачвек Гаўрыла Яўгенаў—1 руб., Камандырчык Сямён Данілаў—1 руб., Цалуйка Міхась Раманаў—1 руб., Казлоў Васіль Сьцяпанаў—1 руб., Кудловіч Міхась Давыдаў—1 руб., Чарноў Андрэй Якімаў—1 руб., Супруненка Мікіта Міхасёў—1 руб., Грыневіч Мікола Антонаў—1 руб., Кузьмін Міхась Ціханаў—1 руб., Крысенка Аляксей Цярэньцяў—1 руб.**

**ПАЛЯЎНІЧЫЯ ПУХАВІЦКАГА КАЛЕКТЫВУ: Канюхневіч М. Л. унёс 1 руб.**

**ПАЛЯЎНІЧЫЯ АСІПАВІЦКАГА КАЛЕКТЫВУ з 1 сьнежня 1929 г. па 1 сакавіка 30 г. сабралі 187 руб.**

## З газэт і часопісяй.

**Пасьпяховы цюленевы промысел.** Скончыўся цюленевы промысел на Каспіі. Ня гледзячы на тое, што промыслу перашкаджаў шторм, загнаўшы рыбацкія лодкі ў мора, ён даў добрыя вынікі.

Па пляну меркавалася загатовіць 8 тысяч цэнтнэраў цюленя, а фактычна загатоўлена больш за 10 тысяч цэнтнэраў. („Г. Р.“).

**Будуюць танк.** Пяты сход упаўнаважаных „Всекохотсоюза“ для ажыцьцяўленьня жаданьня каапэраванага паляўнічага і рыбалоўнага насельніцтва выказаўся за пабудову на сродкі членаў танка „Чырвоны паляўнічы“. Сродкі ўжо сталі паступаць ад паляўнічых і рыбакоў.

**Прабег на сабаках Архангельск—Масква.** 3-га сакавіка ўвечары быў даны ў Архангельску старт прабегу на сабаках Архангельск—Масква. У прабегу ўдзельнічаюць дзьве партыі па 6 сабак у кожнай. Мэта прабегу — дасьледча-агітацыйная і мае шчыльную сувязь з савецкай экспэдыцыяй у арктыку, якая павінна адбыцца ў недалёкім будучым. У гэтай арктычнай экспэдыцыі павінны ўдзельнічаць усе сродкі перасоўваньня—самалёты, ледаколы і сабакі.

У прабегу Архангельск—Масква ўдзельнічаюць сабакі розных парод: лайкі—сібірскія, зыранскія, самаедзкія, аўчуганы і сабакі мясцовых буйных парод. Арганізатар прабегу—Асаавіяхім.

Вынікі прабегу яшчэ невядомы. („С-во“).

**Новыя рыбы.** Зоолёг інстытуту Карнеджы ў Нью-Ёрку (Амэрыка) д-р Ланглей прыступіў у заліве Флёрыда да вывучэньня рыб з дапамогай вадалазнага гарнітура.

Назіраючы жыцьцё на дне мора, ён знайшоў новых рыб, з невядомымі нам асаблівасьцямі. Адны з гэтых рыб зарываюцца на дно, у другіх зябры ўтрымліваюць вельмі моцную атруту. Усе гэтыя рыбы дагэтуль ня былі вядомы рыбаловам. („Г. Р.“).

**Рух путіны.** Згодна папярэдніх лічбаў за чацьвертую пяцідзёнку красавіка (з 15 па 21) у асноўных рыбапрамысловых раёнах вылаўлена 235.322 цэнтнэраў рыбы.

У Волга-Каспійскім раёне ўлоў даў за пяцідзёнку 157.524 цэнтн., у Азоўска-Чорнаморскім—19.006 цэнтн., у Паўночным—7.138 цэнтн. Паўгадавы плян выкананы на 39,1 проц.

**Вясеньняй выстаўкі сабак ня будзе.** У мінулыя гады вясной „Всекохотсоюзом“ наладжвалася вясеньняя выстаўка сабак у г. Маскве. У гэтым годзе такой выстаўкі ня будзе. Замест яе будзе абласная маскоўская выстаўка. („О.“)

**Чырвоныя абозы з пушнінай.** Пушныя загатоўкі ў апошні час на Камчатцы павялічыліся. Шмат вёсак арганізавалі чырвоныя абозы з пушнінай. На сельскіх сходах выносяцца пастановы аб абавязковай здачы пушніны. („О. Г.“)

**II Усесаюзны кінолёгічны зьезд** мяркуецца склікаць у Маскве ў канцы лістапада.

**Падатак на сабак.** У камісіі пры Саўнаркоме РСФСР разгледжаны законапраэкт аб падатку на сабак. Праэкт унесены Маскоўскім выканкомам у мэтах барацьбы з шаленствам. Разьмер падатку ад 2 да 20 руб. Дзяржаўныя і грамадзкія гадавальнікі сабак мяркуецца ад падатку вызваліць. („О“.)

**Паляўнічыя кіно-фільмы.** Па заказу Сібірскага краявога паляўнічага саюзу Саўкіно прыступіла да здымкі двух кінофільмаў—„Охотничье хозяйство“, па сцэнарыю Юрыя Саліна і Волкенштэйн і „Звероводство“ па сцэнарыю Алексінава і Волькенштэйн. Фільмы павінны даць малюнак будаўніцтва паляўнічае гаспадаркі і зьверагадоўлі на падставе калектывізацыі прамысловага насельніцтва. Фільмы павінны былі дэманстравацца першага мая. („О“.)

**Воўк у хаце.** У глухім засьценку Філаманаўскім, Чулыскага раёну, Нова-Сібірскае акругі, 18 сьнежня 1928 г. а 10 гадзіне ўвечары ў хату ўсьлед за сабакамі праз разьбітае вакно ўскочыў воўк. У гэты час у другім пакоі было пасяджэньне маслаарцелі. Члены праўленьня убачыўшы ваўка ў хаце, пахаваліся. Гаспадар хаты двума ўдарамі палена забіў ваўка. („О“.)

### Памёр старшыня Полацкага т-ва

**У г. Маскве 15-IV-30 г. а 16 гадзіне памёр былы старшыня Полацкага праўленьня таварыства паляўнічых тав. М. І. Жукоўскі.**

**Пачынаючы з 1917 па 1920 г., тав. Жукоўскі знаходзіўся ў радах Чырвонай арміі на розных адказных палітычна-камандных пасадах. Потым т. Жукоўскі быў перакінуты на грамадзкую працу. З 1920 году ён працаваў на розных партыйных і савецкіх адказных пасадах, а з 1928 г. быў старшынёй праўленьня Полацкага акруговага таварыства паляўнічых.**

**Тав. Жукоўскі быў добры працаўнік і таварыш. За час сваёй працы ў акруговым т-ве ён шмат чаго зрабіў па ачыстцы паляўнічай каапэрацыі ад чужых элемэнтаў, па пашырэньні паляўнічай гаспадаркі ў акрузе.**

**Паляўнічыя Полаччыны не забудуць работы т. Жукоўскага па ўзмацненьні і аздараўленьні паляўнічай каапэрацыі. Няхай-жа памяць аб т. Жукоўскім застанецца ў нашых сэрцах, як аб добрым таварышу і адданым працоўным масам партыйцу.**

Лясовіч.

### ПАМЫЛКІ ДРУКУ

У № 4 у артыкуле „Змагайцеся з шкоднікамі паляўнічай гаспадаркі“ у левай калёнцы, радок 16 зьверху надрукавана: „ніхто ня ведае падліку зайцоў“.. трэба чытаць: „Ніхто не вядзе падліку зайцоў“...

У артыкуле „Ацэнка якасьцяй вытворцаў“ у правай калёнцы зноску трэба чытаць: „помесі“.

У № 3, у аддзеле „Перапіска з чытачом“ т. Сідарэнку даны няверны адказ. Трэба чытаць: „Дваровыя сабакі павінны трымацца на прывязі і выводзіцца толькі на прывязі, або з наморднікамі. Усе сабакі, якія знаходзяцца па-за дварамі без намордніка, павінны зьнішчацца пры ўсякіх умовах і ўсімі спосабамі, апроч атруты, як спосабу агульна небясьпечнага. У раёнах, дзе шмат ваўкоў, дазваляецца мець сабаку пры статку на прывязі. Паляўнічыя сабакі, калі яны бадзяюцца па ўгодзьдзях, дзе плодзіцца дзічь, у забаронены для паляваньня і для навучаньня і нагонкі час, павінны затрымлівацца і перадавацца ў сельсавет ці бюро калектыву паляўнічых, а на саміх паляўнічых накладаецца ўзысканьне ў парадку саюзнай дысцыпліны“. Рэд.

Адказны рэдактар: **Міх. Шмідт.**
Рэдкалегія: **Сільнікаў, Томашэўскі.**

ЦАНА 30 кап.





## ДА ВЕДАМА ПАЛЯЎКОРАЎ.

Рэдакцыя зьвяртаецца з просьбай—усе допісы ў „Паляўнічы Беларусі“ дасылаць ня ў адрас „Беларускай Вёскі“, а па старому адрасу „Паляўнічы Беларусі“ (Менск, Савецкая, 71), бо рэдакцыя працуе на старым месцы. У кантору „Беларуская Вёска“ (Савецкая, 63) дасылаецца толькі падпіска.

Таксама рэдакцыя просіць дасылаць паляўнічыя здымкі, за якія будзе, у выпадку іх зьмяшчэньня ў часопісі, выплачвацца ганарар.

РЭДАКЦЫЯ.

Друкарня „БДВ“. Заказ № 1844. У ліку 17.500 экз. Галоўлітбел № 1988.